ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№95 — 96 (4452 — 4453) СУБОТА, 26 лістапада 1994 года

Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

### АДУСЮЛЬ ПАТРОХУ

#### ПАДРУЧНІК НАПІСАЛІ САМІ

Навучальны дапаможнік "Мая радзіма — Беларусь" для школьнікаў чацвёртых класаў падрыхтавалі ўласнымі сіламі настаўнікі Шклоўскага раёна. У ім прадстаўлены 32 тэмы. Большасць з іх прысвечана вядомым людзям, гісторыі роднага краю, культурнай спадчыне, помнікам і г.д.

#### МІЛАСЭРНЫ АКАДЭМІК

Акадэмік Андрэй Трафімук з Новасібірска перадаў грашовую Дзяржаўную прэмію Расіі чарнобыльскім дзецям Беларусі.

#### БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў БАЛГАРЫІ

У Велінградзе — жамчужыне горнага курорта паўднёвай Балгарыі — адкрылася беларуская школа.

#### ВЫСТАВА ПЕРШАКЛАСНІЦЫ

У сталічным Доме дзяцей і моладзі прайшла выстава юнай мастачкі-першакласніцы Мастацкага ліцэя Наташы Каралёвай.

#### ДОБРААХВОТНЫ ШЭФ

Гомельскі філіял міжнароднага інстытута працы і сацыяльных адносін узяў шэфства над работнікамі і навучэнцамі Добрушскай гімназіі. З дапамогай выкладчыкаў інстытута ў гімназіі пачаўся курс заняткаў па рыначнай эканоміцы.

#### ЗА СІМВАЛІЧНУЮ ПЛАТУ

Дзіцячы сад калгаса "Рэдзькавічы" Слуцкага раёна амаль поўнасцю фінансуе гаспадарка. Усяго 200 рублёў у месяц за дзіця — гэта сімвалічная плата для бацькоў.

Міхась АНІСЕНКА.

### ВЕСТКІ З ГОМЕЛЯ

#### МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МОЛАДЗІ

Міжнародны фестываль моладзі прайшоў у дзяржаўным універсітэце імя Ф.Скарыны. У ім бралі ўдзел 270 чалавек з Украіны, Францыі, Шатландыі, Італіі. Моладзь прадэманстравала свае таленты, наведала знакамітыя мясціны на Гомельшчыне.

#### БУДУЦЬ НАВАСЕЛЛІ

На праспекце Кастрычніка ўзводзяцца лабараторыя і адміністрацыйна-бытавы корпус для політэхнічнага інстытута. Побач закладзены нулявы цыкл пад інтэрнат для студэнтаў і маласямейных, дом для супрацоўнікаў інстытута.

#### ВЕРШЫ ПІШУЦЬ ЛЕКАРЫ

Літаб'яднанне "Пульс" дзейнічае ў дзяржаўным медінстытуце з 1991 года. Ужо выдадзена дзевяць літаратурна-мастацкіх зборнікаў.

#### "АЛЬВЕНА" ПАДТРЫМЛІВАЕ ТАЛЕНТЫ

Менавіта такі дэвіз спадарожнічае фірме "Альвена", якая вырашыла ўзяць на сябе ўсе выдаткі, каб падтрымаць юны талент Алёны Войцішкінай. Дзяўчынка, выхаванка садзіка № 75, мае добры голас.

#### ДВА ЧЭМПІЁНЫ

Сярод мужчын першынство на міжнародным чэмпіянаце па шашках заваяваў кандыдат у майстры спорту, студэнт медінстытута Віталь Фёдараў. Званне чэмпіёнкі горада заваявала студэнтка дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны Галіна Фейгіна.

Ганна АТРОШЧАНКА.

### ВАС ЧАКАЮЦЬ У ФОНДЗЕ СОРАСА

Выявіць перспектыўных маладых гуманітарыяў, аказаць фінансавую падтрымку іх імкненню да прафесійнага росту і даць магчымасць праявіць свае здольнасці — такая мэта I конкурсу ў галіне гуманітарнай адукацыі і гуманітарных навук, якую праводзіць Фонд Сораса — Беларусь. Умовы конкурсу надрукаваны ў "Настаўніцкай газеце" ў №76 за 21 верасня г.г. Нагадваем студэнтам, аспірантам і выкладчыкам ва ўзросце да 30 гадоў, што Вы яшчэ можаце падаць свае праекты да 30 лістапада па адрасе: 220005, Мінск, вул. Казлова, 7, кв. 101.

ДАСЛОЎНА

## "Выканаць на практыцы гэта патрабаванне не прадстаўляецца магчымым..."

### АДКАЗ МІНІСТЭРСТВА ПРАЦЫ НА ЗАПЫТ ДЭПУТАТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ КАМІСІІ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННІ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ АЛЕГА ТРУСАВА

**17 кастрычніка 1994 года намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Алег Трусаў зрабіў на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутацкі запыт прэзідэнту краіны аб невыкананні артыкула 34 Закона аб адукацыі. Камісія атрымала адказ з Міністэрства працы, які сёння публікуе "Настаўніцкая газета".**

**Просім настаўнікаў даслаць свае думкі, меркаванні і прапановы па сутнасці гэтага пытання ў Камісію Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і ў рэдакцыю "Настаўніцкай газеты".**

У сувязі з даручэннем Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28.10.94 г. №05/113-96 Міністэрства працы разгледзела запыт дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Трусава А.А., выказаны 17 кастрычніка 1994 г. на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і адрасаваны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, па пытанні невыканання артыкула 34 Закона аб адукацыі і паведамляе.

Пунктам 3 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5 лістапада 1992 г. №1913-XII было прадугледжана, што з 1 верасня 1992 года да 1 студзеня 1994 года пры прымяненні абзаца сёмага часткі першай артыкула 34 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь":

разрады і тарыфныя каэфіцыенты педагагічных работнікаў, у тым ліку прафесарска-выкладчыцкага складу, павінны ўстанаўлівацца такім чынам, каб сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў была не менш чым 100 працэнтаў, а прафесарска-выкладчыцкага складу — не менш чым 150 працэнтаў сярэдняй заработнай платы служачых ў прамысловасці ў мінулым квартале.

Дзеля рэалізацыі гэтай пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі БеларусьДзяржкампрацы, Мінфінам, Мінэканомікі і Дзяржкамстатам быў зацверджаны механізм карэкціроўкі заработнай платы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага складу на IУ квартал 1992 г. і на 1993 год.

З 1 снежня 1994 года абзац 7 артыкула 34 уведзены ў дзеянне ў поўным аб'ёме ў рэдакцыі Закона, якім прадугледжана, што сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў павінна ўстанаўлівацца не ніжэй сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці, а прафесарска-выкладчыцкага саставу вышэйшых навучальных установаў — як мінімум у паўтара раза вышэй гэтага ўзроўню. Выканаць на практыцы гэта патрабаванне не прадстаўляецца магчымым, таму што сярэдняя стаўка з'яўляецца разліковай велічынёй, а аплата працы праводзіцца зыходзячы з узроўню кваліфікацыі, адукацыі работніка і іншых фактараў.

Акрамя таго, у снежні 1992 года была прынята пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь". Пры гэтым артыкул 83 КЗаП уступіў у супярэчнасць з артыкулам 34 (абзац 7) Закона аб адукацыі.

У сувязі з гэтым Міністэрства эканомікі сумесна з Мінпрацы і Мінфінам Рэспублікі Беларусь неаднаразова ўносілі Савету Міністраў, а ў апошні раз Кабінету Міністраў (пісьмо ад 10 кастрычніка 1994 г. №№ 26/2-946, 03-05/423, 06-2/983) прапанову аб унясенні, ва ўстаноўленым парадку, змяненняў у артыкуле 34 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Пры гэтым прапанавалі другі сказ абзаца 7 артыкула 34 вышэйназванага Закона выкласці ў наступнай рэдакцыі: "Формы, сістэмы і памеры аплаты працы педагагічных работнікаў дзяржаўных устаноў сістэмы адукацыі ўстанаўліваюцца ў парадку, які вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь".

З улікам выкладзенага лічым, што пытанне рэалізацыі артыкула 34 (абзац 7) Закона аб адукацыі павінна быць унесена на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Адначасова паведамляем, што пытанням удасканальвання і рэгулявання аплаты працы работнікаў адукацыі і іншых бюджэтных устаноў удзяляецца пастаянная ўвага ў меру фінансавых магчымасцяў.

З 1 снежня 1993 г. была павышана на 1-2 разрады тарыфікацыя педагагічных работнікаў, а з 1 лютага б.г. — асобных работнікаў адукацыі.

Акрамя таго, пастановай Дзяржкампрацы ад 4 мая 1994 г. №53 да двух разоў павялічаны даплаты работнікам адукацыі, а таксама павялічаны размеры сродкаў, якія накіроўваюцца на прэміяванне з 10 да 15 працэнтаў планавага фонду аплаты працы.

Пастановай Савета Міністраў ад 30 чэрвеня 1994 г. №481 з 1 жніўня б.г. зноў былі павышаны на I разрад тарыфныя разрады і ўстаноўлены надбаўкі за стаж працы асноўным катэгорыям спецыялістаў адукацыі і шэрагу іншых сацыяльна-культурных галін, якія фінансуюцца з бюджэту. Былі таксама ўстаноўлены даплаты работнікам, якія маюць вучоную ступень доктара навук і кандыдата навук, асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца арганізацыі адукацыі, аховы здароўя і інш., што фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, у памерах адпаведна трох і адной мінімальных заработных плат.

З 1 лістапада б.г. уведзена новая мінімальная заработная плата і стаўка першага разраду адпаведна 20000 і 22000 рублёў у месяц, на аснове якой будуць пералічаны стаўкі і аклады педработнікаў, што таксама зробіць уплыў на рост іх заработнай платы.

Міністр працы А.В.САСНОЎ.

## НГ-ІНФАРМ

### ПОГЛЯД У XXI СТАГОДДЗЕ

**У Нацыянальным інстытуце адукацыі адбыўся "круглы стол" вядучых навукоўцаў-тэарэтыкаў, на якім абмеркаваны Тэзісы аналітычнага матэрыялу, які будзе адрасаваны ЮНЕСКО, па тэме "Адукацыя XXI".**

Кароткім уступным словам работу "круглага стала" адкрыў першы намеснік дырэктара па навуцы Нацыянальнага інстытута адукацыі, доктар філасофскіх навук Мікалай Латыш. У прыватнасці, прафесар паведаміў удзельнікам абмеркавання Тэзісаў, што для выяўлення арыенціраў і шляхоў адукацыі ў XXI ст. неабходны інтэлектуальны базіс і філасофія адукацыі, адэкватныя сучасным і будучым працэсам у грамадстве. Пакуль што яны толькі пачынаюць выпрацоўвацца, і каб забяспечыць вырашэнне гэтай найскладанейшай задачы, вяліся перамовы ў сакавіку 1993 года з Генеральным дырэктарам ЮНЕСКО Федэрыкам Маёрам, які потым і прапанаваў старшыні Камісіі еўрапейскіх супольнасцяў Жаку Дэлору ўзначаліць міжнародную камісію па выпрацоўцы рэкамендацый па надзённых праблемах адукацыі. Прапанова прынята, і камісія пачала працаваць па назапашванні матэрыялаў з розных рэгіёнаў Еўропы для разгорнутага даклада для ЮНЕСКО, які павінен зачытвацца ў канцы гэтага года.

З абаронай Тэзісаў выступілі супрацоўнікі сектара сацыяльна-педагагічнага праектавання НІА Юрый Красноў і Алесь Палоннікаў.

Навукоўцы правялі дыскусію па выпрацоўцы дакладных фармулёвак, напаўненню канвы даклада нацыянальным зместам і сэнсам, наданнем яму менавіта беларускага каларыту і гістарычна самабытнага аблічча.

Завяршыліся абмеркаванне і дыскусія па Тэзісах канкрэтнымі прапановамі аб адукацыі Беларусі у XXI стагоддзі.

Аляксандр АМЕЛЬЧАНКА.

НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ

## ІНСТЫТУТ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ І МЕНЕДЖМЕНТУ: ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

### ІНТЭРВ'Ю З ЯГО ДЫРЭКТАРАМ ПАЎЛАМ ДАНЕЙКА

**— Зараз адбываецца толькі першае знаёмства нашага грамадства з працэсам прыватызацыі. Назва "Інстытут прыватызацыі і менеджменту" таксама новая для нас. Прадстаўце, калі ласка, ваш інстытут.**

— Інстытут прыватызацыі і менеджменту быў заснаваны ў Мінску ў лютым 1994 г. пры ўдзеле Міністэрства па кіраўніцтве дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, Цэнтральна-Еўрапейскага Універсітэцкага Фонду (ЗША) і Цэнтра Прыватызацыі ў Варшаве.

Галоўнай мэтай дзейнасці інстытута з'яўляецца садзеянне працэсам эканамічных рэформ у Беларусі, аказанне падтрымкі ўраду Рэспублікі ў яго прыватызацыйных ініцыятывах, распаўсюджанне ведаў аб рыначных інстытутах і кіраўніцтве прыватнымі прадпрыемствамі, дапамога кіраўнікам і спецыялістам дзяржаўных прадпрыемстваў у ажыццяўленні пераўтварэнняў сваіх прадпрыемстваў.

Інстытут ажыццяўляе сваю місію, арганізуючы семінары і навучальныя курсы па прыватызацыі, эканамічных рэформах, менеджменту, фондавым рынку. У перспектыве — вучоба па фінансах.

**— Ваш інстытут — недзяржаўная структура. Ці даступна навучанне ў ім для ўсіх жадаючых?**

— Я спачатку адзначыў бы тое, што патрэбнасць у такога роду ведах, на жаль, у нашай Рэспубліцы недастатковая. Інстытут у Мінску ўваходзіць у міжнародную сетку цэнтраў прыватызацыі, дзе з былых рэспублік Савецкага Саюза прадстаўлены Расія і Украіна. І мы можам параўноўваць. У Маскву па веды па розных аспектах "рыначных" трансфармацый едуць нават з Камчаткі. У Ніжнім Ноўгарадзе стварылі свой інстытут, настолькі хуткімі тэмпамі там ішлі рэформы, дзякуючы чаму яны былі такімі пасняховымі. На Украіне ў Кіеўскім інстытуце чарга на штомесячныя курсы па прыватызацыі і пошуку патэнцыяльных інвестараў — не менш чым на 2—3 месяцы. Прычым такая актыўная цікавасць спецыялістаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў прачнулася раней, чым украінскі ўрад вызначыўся ў сваім незваротным руху на шляху прыватызацыі. Зараз ідзе арганізацыйны працэс па стварэнні інстытута прыватызацыі ў Алма-Аце і гэтая ідэя мае вялікую падтрымку ўрада Казахстана.

Што датычыцца складу слухачоў нашых семінараў, то гэта ў асноўным прадстаўнікі дзяржаўных і камерцыйных структур, банкаў, інвестыцыйных фондаў і іншых рыначных інстытутаў. Аднак інстытут прыватызацыі актыўна шукае і знаходзіць падтрымку розных міжнародных арганізацый для ажыццяўлення сацыяльна значымых праграм.

Гэтыя праграмы ўяўляюць сабой навучальныя курсы для тых катэгорый спецыялістаў, якім цяжка знайсці сродкі для навучання. У якасці прыкладаў можна прывесці семінары для кіраўнікоў і спецыялістаў эканамічных ведамстваў і дзяржаўных прадпрыемстваў па рэструктурызацыі прадпрыемстваў, для журналістаў па прыватызацыі, для спецыялістаў абласных камітэтаў па кіраўніцтве дзяржмаёмасцю і прыватызацыі. Цэнтр Прыватызацыі ў Варшаве прадастаўляў магчымасць навучання і сустрэчы з калегамі з Польшчы, Расіі і Украіны для беларускіх лектараў і кіраўнікоў Дзяржкамітэта па прыватызацыі. Чарговая сумесная праграма — арганізаваць у Варшаве ў студзені 1995 года сустрэчу-семінар журналістаў гэтых краін. На канец года намечана рэалізацыя праграмы па вывучэнні вопыту прыватызацыі муніцыпальнай уласнасці ў Ніжнім Ноўгарадзе (Расія) для мэраў беларускіх гарадоў.

**— Ці можа інстытут прапанаваць што-небудзь для настаўнікаў і выкладчыкаў тэхнікумаў, ВНУ?**

— З 3 па 8 студзеня 1995 года сумесна з Фондам Сораса арганізуем семінар для настаўнікаў сярэдніх школ і тэхнікумаў, якія выкладаюць асновы "эканомікс". Задача семінара — даць выкладчыкам эканомікі ў школе сучасныя метады выкладання гэтай дысцыпліны. Фонд Сораса забяспечвае фінансаванне праграмы і прадастаўляе спецыялістаў для падрыхтоўкі і правядзення навучальнай праграмы. Амерыканскія настаўнікі пазнаёмяць беларускіх калег з методыкай і праграмамі па "эканомікс" у школах ЗША.

**— І дзе пройдзе семінар?**

— На жаль, не ў ЗША. Але будучым удзельнікам не варта хвалявацца. Ён адбудзецца ў Рэспубліканскім спорткомплексе "Раўбічы". Там выдатныя ўмовы для пражывання і адпачынку. Усе ўдзельнікі атрымаюць поўны канспект навучальных матэрыялаў, прадастаўленых амерыканскімі калегамі, зразумела, ужо перакладзеных на рускую мову. У час лекцый таксама будзе забяспечаны пераклад. Мы таксама арганізуем дастаўку слухачоў з Мінска ў Раўбічы і назад пасля заканчэння семінара. Усё гэта бясплатна — дзякуючы фінансавай падтрымцы Фонду Сораса.

**— І хто будуць гэтыя "шчаслівчыкі"?**

— Фарміраванне групы настаўнікаў будзе ажыццяўляцца па выніках конкурсу, які мы аб'яўляем адкрытым з сённяшняга дня. У конкурсе могуць прыняць удзел настаўнікі, якія маюць вопыт у выкладанні "эканомікс" у сярэдняй школе альбо тэхнікуме не менш як год. Жадаючыя павінны прадаставіць каардынатару праграмы ў інстытуце прыватызацыі і менеджменту (Гулякевіч Людміле) даныя пра сябе — анкету, а таксама навучальны гадавы план па дадзеным прадмеце ці рэферат на тэму "Якімі мне бачацца мэты і структура курса "эканомікс" у школе?"

Мы мяркуем сфарміраваць групу ўдзельнікаў семінара ( колькасцю 30 чалавек) у сярэдзіне снежня.

**— Але гэта толькі для настаўнікаў?..**

— Семінар для выкладчыкаў эканамічных ВНУ пройдзе ў два этапы: у лютым і чэрвені, і ў яго будзе іншая структура і мэта — дапамагчы выкладчыкам эканамічных ВНУ і эканамічных дысцыплін у тэхнічных ВНУ падрыхтаваць глыбокія курсы па спецыяльных праблемах, а менавіта: стратэгічнае планаванне, бізнес-план, аналіз SWOT. Комплекс паслуг для гэтых семінараў будзе такім жа.

**— А ўсё ж, якія інтарэсы вашага інстытута ў дадзеным выпадку?**

— Наш галоўны і, бадай, адзіны інтарэс тут заключаецца ў тым, што будзе дадзены імпульс развіццю гэтага прадмета ў школе, а значыць і падрыхтоўцы маладога пакалення для жыцця ў новых эканамічных умовах. Эканамічныя ж веды важныя не толькі для тых, хто збіраецца затым у эканамічныя ВНУ, але і для тых, хто проста стане ўдзельнікам рыначных адносін, будучы пакупніком у магазінах, кліентам у банках, акцыянерам інвестфонду або іграком на біржы. Эканамічныя веды неабходны кожнаму з нас гэтак жа, як уменне чытаць, лічыць...

Інстытут даўно спецыялізуецца на сацыяльна значымых праграмах. І мы рады, што можам зрабіць штосьці і для нашых настаўнікаў,якія, на жаль, у многіх адносінах зараз абыдзены ўвагай як дзяржавы, так і прадпрымальніцкіх структур.

Лагатып нашага інстытута адлюстроўвае цеснае супрацоўніцтва нашых заснавальнікаў. І мы хацелі б бачыць цеснае супрацоўніцтва і розных нацыянальных, грамадскіх, палітычных і прафесійных груп на шляху да дэмакратычнага грамадства і дэмакратычнай эканомікі.

ИНСТИТУТ ПРИВАТИЗАЦИИ И МЕНЕДЖМЕНТА

**ПРИГЛАШАЕТ**

**УЧИТЕЛЕЙ, ПРЕПОДАЮЩИХ "ЭКОНОМИКС" В СРЕДНИХ ШКОЛАХ И ТЕХНИКУМАХ,**

принять участие в конкурсе, победители которого смогут **с 3 по 8 января 1995 г.** встретиться с американскими коллегами в Раубичах на семинаре, который организует Институт приватизации и менеджмента совместно с Фондом Сороса. Американские специалисты и учителя расскажут вам о методиках и программах преподавания "экономикс" в школах США. Вы сможете прекрасно отдохнуть, расширить ваши контакты с коллегами и получить необходимые знания.

Условия конкурса и информацию о семинаре можно узнать в Институте приватизации и менеджмента по тел. **35-82-71 в г.Минске, или по адресу: ул. Захарова, 76.**

Срок подачи заявок и материалов — до 10 декабря.

### ПРЫЗЫ ЯСЯ І ЯНІНЫ

"Дзень гаспадара" прайшоў днямі ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры навучэнцаў. І хоць сёлетні сельскагаспадарчы год быў не вельмі спрыяльным, юным натуралістам ёсць чым пахваліцца. Больш за дзве тоны гародніны вырасла за сезон на іх участках, 5 тысяч каліў расады памідораў, капусты, перцу. Парадаваў багатым ураджаем і пладовы сад. Усяго ж прыбытак агуркоў сельскагаспадарчай лабараторыі Цэнтра склаў больш за мільён рублёў.

Дзеці падчас свята наведалі фітабар, дзе паспыталі вельмі карысныя напоі з лекавых раслін, а ў кафэ частаваліся смачнымі ласункамі.

Скончылася свята казкай-віктарынай. Ясь і Яніна — галоўныя героі — задавалі дзецям загадкі і пытанні на экалагічную тэму. Прызамі за лепшыя і хутчэйшыя адказы былі сакавітыя яблыкі, капуста, бульба... Бацькі засталіся задаволенымі святам не менш чым дзеці.

Галіна СІДАРОВІЧ.

Фота Юрыя Бондарава.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА РАДЫ ДЫРЭКТАРАЎ ШКОЛ БЕЛАРУСІ

Рада дырэктараў школ Беларусі паведамляе, што чарговае пасяджэнне прэзідыума Рады адбудзецца 6—8 снежня 1994 года ў Баранавічах.

Парадак дня:

Аб стварэнні ў краіне сістэмы выхаваўчай работы.

Заезд 6 снежня да 12 гадзін. Месца правядзення — экалагічная гімназія. Даведкі па тэлефоне (8-01634) 59215.

# НГ-іНФАРМ

ТУРБОТЫ ТБМ

## Закон абавязковы для ўсіх

**На пасяджэнні Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны абмеркаваны пытанні Дзяржаўнай моўнай палітыкі і задачы ТБМ у перыяд падрыхтоўкі і правядзення выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады.**

Выступаючыя завастрылі асаблівую ўвагу на тым, што, зыходзячы з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, беларуская мова вызначана як адзіная дзяржаўная мова ў краіне. Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай дзейнасці ўсёй адукацыйнай сістэмы. Пастулова пашыраецца сфера яе функцыянавання ў дзіцячых дашкольных установах і агульнаадукацыйных школах. На дзяржаўную мову пачала і будзе далей пераходзіць сістэма прафесійнай адукацыі і ВНУ.

Разам з тым, адзначалася, што апошнім часам, не беспадстаўна разлічваючы на падтрымку найвышэйшых асобаў улады, у нашай краіне актывізавалі сваю дзейнасць антыбеларускія сілы, якія маюць за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь. Ідзе байкот выканання Закона аб мовах, адкрыта гучаць заклікі да замены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, ставяцца пад сумленне праўдзівыя факты беларускай гісторыі.

Распачаўся адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ВНУ.

У сістэме адукацыі, гаварылася на Радзе, выконваюцца патрабаванні законаў аб абавязковым вывучэнні рускай мовы, аб'ём яе вывучэння дазволіць усім выпускнікам школ авалодаць рускай мовай на ўзроўні, дастатковым для выкарыстання яе ў любых сферах дзейнасці, у тым ліку і для прафесійнага навучання.

Недапушчальным, адзначылі выступоўцы, з'яўляецца згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальнай сістэмы адукацыі, вядзенне справаводства на беларускай мове. У адпаведнасці з Законам і неад'емным правам народа беларускае слова ў сацыяльна-грамадскім ужытку Бацькаўшчыны павінна мець сапраўды дзяржаўнае гучанне.

Усведамляючы важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння Беларусі, неабходна аказваць больш дзейсную падтрымку органам, установам і работнікам галіны. Без нацыянальнага дашкольнага выхавання, без сапраўды беларускай сярэдняй і вышэйшай школы не мае будучыні беларуская дзяржава.

Суполкам і сябрам ТБМ, падкрэслена на пасяджэнні, трэба прыняць самы актыўны ўдзел у выбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады краіны і праводзіць найважнейшую агітацыйна-асветніцкую кампанію прапаганды ідэй нацыянальна-культурнага адраджэння, пашырэння ў грамадскім ужытку беларускай мовы і ўмацавання дзяржаўнасці Беларусі.

**Міхась АНІСЕНКА.**

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## Што натхняе і што замінае

**Беларусь размешчана ў цэнтры Еўропы, таму самім лёсам ёй наканавана быць сувязуючым звяном паміж прагматычнай і сытай Заходняй Еўропай і непрадказальнай Расіяй. Пытанні вывучэння ангельскай мовы, як мовы міжнародных узаемін, становяцца на Беларусі вельмі актуальнымі. Дарэчы, недарэмна ў Мінску і адбылася першая Беларуская міжнародная канферэнцыя выкладчыкаў ангельскай мовы.**

Калі ў час адкрыцця канферэнцыі міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў выступіў з прывітальнай прамовай на выдатнай ангельскай мове, зала ўзарвалася апладысментамі: маўляў, нарэшце ў Міністэрстве адукацыі — наш чалавек! Трэба адзначыць, што менавіта Міністэрствам адукацыі была падтрымана ідэя правядзення Міжнароднай канферэнцыі, а сама ідэя нарадзілася і была ажыццёўлена ў маленькім калектыве Брытанскага Савета, які год таму быў адкрыты ў нашай краіне. Ідэйнымі натхняльнікамі правядзення канферэнцыі сталі каардынатар Брытанскага Савета Сайман Інграм-Хіл і яго жонка Эн Расітэр, сімпатычныя людзі, якія знайшлі фундатараў у асобе Фонду Сораса і фірмы Белсел.

Да канферэнцыі рыхтаваліся з пачатку года. Быў створаны арганізацыйны камітэт, у які ўвайшлі вядучыя педагогі Беларусі. Але асноўная арганізацыйная работа, канешне, лягла на плечы супрацоўнікаў Брытанскага Савета Наталлі Дземчанка, Таццяны Усавай, Ганны Зубель. Асабліва трэба адзначыць Наталлю Валянцінаўну, бо яна была адказнай за ўсё. Здзіўлення варта, колькі ў гэтай жанчыне сіл, якіх хапала на ўсё: і на бездакорную арганізацыю канферэнцыі, і на тое, каб быць гасціннай з кожным удзельнікам, і кіраваць работай секцый, і выступіць з цікавым дакладам... Сапраўды, вытрымаць такое пад сілу толькі нашым жанчынам.

У канферэнцыі ўдзельнічала 250 чалавек, у асноўным педагогі з Беларусі, таксама вучоныя і педагогі з Вялікабрытаніі і ЗША, Польшчы, госці з бліжэйшага замежжа — з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі. Абмяркоўвалася шырокае кола праблем, такіх, як "Навучанне размоўнай гаворцы", "Дзелавая ангельская мова", "Тэставанне", "Дзяржавазнаўства", "Выкарыстанне тэхнічных сродкаў навучання", "Складанне навучальных планаў і праграм" і інш. За тры дні работы канферэнцыі было заслухана больш як 100 выступленняў.

Вучоныя з Вялікабрытаніі Дж. Колман, П.Маргей, А.Філхім, С.Бардун і іншыя распавялі аб сучасных метадах выкладання ангельскай мовы. Старэйшы выкладчык кафедры ангельскай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта Тамара Міхайлаўна Міхайлава навучае ангельскай мове студэнтаў гістарычнага факультэта, выкарыстоўваючы параўнальны метад. Яе студэнты не проста чытаюць і перакладаюць тэксты, а параўноўваюць гістарычнае і культурнае развіццё дзвюх дзяржаў — Беларусі і Вялікабрытаніі.

Нязменным поспехам у студэнтаў педагагічнага універсітэта карыстаюцца заняткі, якія праводзіць старэйшы выкладчык В.М.Зайцаў. Пасля стажыроўкі ў ЗША ён распрацаваў спецкурс "Гісторыя і культура ЗША", і паказаў на канферэнцыі, як ён праводзіць заняткі па дзяржавазнаўстве. Трэба адзначыць, што выкладчыкі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта былі вядучымі дакладчыкамі практычна ў кожнай секцыі. Вельмі каштоўным на канферэнцыі было і асабістае знаёмства, сустрэчы.

Разам з тым хацелася б разабрацца ў тых абставінах, якія замінаюць паспяховай рабоце па навучанні замежным мовам, якія, перш за ўсё, трэба вырашаць, перабудоўваючы сістэму адукацыі.

Чаму Польшча і Прыбалтыйскія дзяржавы, якія яшчэ гадоў пяць таму пасылалі сваіх педагогаў за перадавым вопытам у Беларусь, зараз прыкметна апераджаюць нас у пытаннях выкладання? Канешне, ёсць прычыны і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя. Абраджальнае становішча выкладчыкаў, калі прыбіральшчыца ў банку атрымоўвае больш, чым прафесар лінгвістычнага універсітэта, прымушае шукаць дадатковую работу, а ў выніку ўсё менш сіл і часу застаецца на творчасць.

Часам арганізацыя працы не садзейнічае ўдасканаленню майстэрства. Колькі ў нас у школах, інстытутах ёсць лінгафонных кабінетаў, відэакласаў, куды вельмі рэдка ступае нага выкладчыка і студэнта. Яны ёсць, але... не для работы: не дай бог, нешта зламаюць!.. І колькі ў нас падобных нявыкарыстаных рэзерваў!

Паглядзім уважліва на нашы навучальныя планы і праграмы. Шчыра прызнаемся, што многія з іх складзены па-дылетанцку, без уліку псіхалагічных асаблівасцяў студэнтаў, не прадуманы змест, не ўлічаны сучасныя патрабаванні. А якія ў нас навучальна-метадычныя дапаможнікі? Часам бывае сорамна перад студэнтамі не толькі за ангельскую мову, на якой напісаны гэтыя дапаможнікі, але і за іх змест. Дарэчы, у час канферэнцыі працавала выстава навукова-метадычнай і навучальнай літаратуры, дзе была прадстаўлена навейшая ангельская, амерыканская літаратура ў выдатным выкананні відэа-, аўдыякурсы. Расійскія выдавецтвы таксама парадавалі сваёй прадукцыяй. А вось Беларусь была прадстаўлена больш чым сціпла — на стэндах пераважала прадукцыя кафедраў, надрукаваная на шэрай абгортачнай паперы.

Яшчэ адно хваравітае пытанне — павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў. У старыя часы Міністэрства адукацыі адпраўляла выкладчыкаў на вучобу, на стажыроўку ў Вялікабрытанію і ЗША. Цяпер жа, калі паднята "жалезная заслона", ездзяць усе, пачынаючы з вялікіх і маленькіх чыноўнікаў і заканчваючы незнішчальнымі спекулянтамі, а чэсны працаўнік-педагог пазбаўлены магчымасці пабываць у краіне, мову якой выкладае, спазнаць яе культуру, звычаі. Ці гэта не сорам?

Улічваючы сучасную палітычную і эканамічную сітуацыю ў краіне, з мэтай забеспячэння сучаснага ўзроўню выкладання ангельскай мовы як важнага сродку міжнароднага разумення і супрацоўніцтва, трэба распрацаваць спецыяльную дзяржаўную праграму навучання замежным мовам і знайсці сродкі для яе рэалізацыі. Хочацца верыць, што гэтая задача можа стаць вырашальнай якраз у плыні рэфармавання адукацыйнай сістэмы.

**Таццяна ГРЫНЬКО,**
**старшы выкладчык кафедры ангельскай мовы БДПА.**

## ШУКАЕЦЕ РАБОТУ? ПРЫХОДЗЬЦЕ НА КІРМАШ!

**Незвычайны кірмаш адбыўся ў Мінску ў Доме культуры тонкасуконнага камбіната. Жадаючыя маглі купіць тут не паліто з ботамі, а вырашыць праблему больш важную — знайсці сабе работу.**

Такі кірмаш вакансій упершыню арганізаваў гарадскі Цэнтр занятасці і Фрунзенскі райвыканкам, якія актыўна шукаюць шляхі вырашэння праблемы працаўладкавання. А беспрацоўе бязлітасна набірае сілу. Толькі ў верасні па Беларусі налічвалася 99.462 беспрацоўных. У Мінску сёння іх зарэгістравана ўжо 11 тысяч, сярод якіх моладзі каля 20%. Па прагнозу спецыялістаў, колькасць беспрацоўных будзе расці і да канца 1995 года складзе па гораду амаль што дваццаць тысяч.

У пошуках работы на кірмаш звярнулася каля 10 тысяч чалавек. Сярод іх — 55 працэнтаў маладых людзей да 25 гадоў, з якіх толькі 6 працэнтаў маюць няпоўную сярэднюю адукацыю, а 33,7 працэнта — сярэднюю тэхнічную.

40 прадпрыемстваў горада, у тым ліку такія гіганты, як МАЗ, "Інтэграл", "БелВАР", "Мінскбуд", прапанавалі на кірмашы 5.300 пастаянных месц работы і 400 часовых.

За кансультацыяй па працаўладкаванню звярнуліся ў гэты дзень да спецыялістаў Цэнтра занятасці больш тысячы чалавек, палове з якіх была падабрана работа па інтарэсах і магчымасцях.

Прыведзеныя вышэй лічбы красамоўна пацвярджаюць вялікую неабходнасць у правядзенні акцый такога тыпу. Карысці многа і канкрэтным людзям, і прадпрыемствам. Але, на жаль, такі кірмаш — вельмі дарагое мерапрыемства. Арганізатары значна патраціліся на рэкламу, на друкаванне бюлетэняў, памятак і лістовак беспрацоўных, нечарговага выпуску газеты "Занятасць", на арэнду памяшкання.

Толькі супрацоўнікі Цэнтра занятасці і Фрунзенскага райвыканкама працавалі на кірмашы бясплатна. Таму рашэнне гарвыканкама праводзіць іх не радзей аднаго разу ў паўгоддзе наўрад ці будзе выканана. А шкада. Справа гэтая, як бачна, вельмі патрэбная.

**Ала КЛЮЙКО.**

# ПЫТАННЕ — АДКАЗ

**Настаўнікі Г.В.Нікіфарава, Т.Н.Субач, Р.Д.Крылова з Жодзіна цікавяцца, якія існуюць нарматывы па праверцы сшыткаў у 5—11 класах.**

**Тлумачэнне дае Валянціна Уладзіміраўна ГНЯЗДЗІЛАВА, загадчыца аддзела эканамічнай абароны Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.**

— Патрабаванні да праверкі сшыткаў выкладзены ў інструктыўным пісьме Міністэрства адукацыі ад 20.05.94 г. №06-14/66 "Аб сістэме кантролю за работамі, за выкананне якіх у навучальных установах прадугледжаны даплаты".

Згодна з ім у 5—11 класах агульнаадукацыйных школ кантрольныя, лабараторныя, практычныя работы па ўсіх прадметах, творчыя работы па мовах і літаратурах правяраюцца ў кожнага вучня.

Сшыткі вучняў, у якіх выконваюцца навучальныя класныя і дамашнія работы па фізіцы, хіміі і біялогіі, правяраюцца ва ўсіх класах выбарачна, аднак сшытак кожнага вучня павінен правярацца не менш за два разы ў навучальную чвэрць.

* * *

**Настаўніца Жорнаўскай школы Асіповіцкага раёна Вольга Міхайлава да паступлення ў педагагічны інстытут працавала ў калгасным дзіцячым садзе. Яна цікавіцца, ці залічваецца праца ў ведамаснай дашкольнай установе ў педагагічны стаж.**

**Адказвае Валянціна Уладзіміраўна ГНЯЗДЗІЛАВА:**

— У адпаведнасці з "Інструкцыяй аб парадку вылічэння стажу работы па спецыяльнасці асноўных катэгорый спецыялістаў і кіраўнікоў устаноў і арганізацый, якія адносяцца да галіны "Адукацыя" (зацверджана загадам міністра адукацыі 16.09.94 г. №253), работа выхавальнікам у дзіцячых садах усіх тыпаў і найменняў залічваецца ў стаж работы па спецыяльнасці для выплаты надбаўкі за гэты стаж, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці сада.

* * *

**У рэдакцыю звярнуўся настаўнік-пенсіянер са Светлагорскага раёна Н.С.Кавак. Ён пытаецца, якімі льготамі карыстаюцца перасяленцы з забруджанай зоны.**

**На пісьмо адказвае загадчык аддзела сацыяльнай абароны Рэспубліканскага камітэта галіновага прафсаюза Аляксандр Львовіч ЛІХТАРОВІЧ:**

— Права на бясплатныя кватэры з ацяпленнем і асвятленнем захоўваецца за пайшоўшымі на пенсію настаўнікамі, якія працавалі ў сельскай мясцовасці, калі агульны стаж работы ў сельскай мясцовасці складае не менш як 10 гадоў пры ўмове, што на момант выхаду на пенсію яны карысталіся гэтымі льготамі.

Права на льготы па камунальных паслугах захоўваецца за пенсіянерамі пры пераездзе іх на новае месца жыхарства ў сельскую мясцовасць ці рабочы пасёлак.

А ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР ад 13 снежня 1990 года №312 за пенсіянерамі, якія пераселены з зон радыеактыўнага забруджання і карысталіся правам на бясплатныя кватэры з ацяпленнем і асвятленнем па ранейшым месцы жыхарства, гэтае права захоўваецца на новым месцы жыхарства, у тым ліку ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу.

Захаванне за асобамі, якія пераселены з зон радыеактыўнага забруджання і працуюць у гарадах, права на бясплатныя кватэры з ацяпленнем і асвятленнем, якімі яны карысталіся па ранейшым месцы жыхарства, працуючы ў сельскай мясцовасці, дзеючым заканадаўствам не прадугледжана.

Падрыхтавала
**Ала ШАЎЦОВА.**

# НГ-іНФАРМ

## "ВАША ДЗІЦЯ ГЕНІЙ!"

### ВЫ МАЕЦЕ ШАНЦ ПАЧУЦЬ ТАКІЯ СЛОВЫ, КАЛІ ЗАВІТАЕЦЕ СА СВАІМ НАШЧАДКАМ У БЕЛАРУСКУЮ АСАЦЫЯЦЫЮ ПРАКТЫЧНЫХ І МЕДЫЦЫНСКІХ ПСІХОЛАГАЎ

**Секцыя псіхалогіі Беларускай Асацыяцыі практычных і медыцынскіх псіхолагаў распрацавала і апрабіравала ў сталічных навучальных установах камп'ютэрную праграму комплекснай псіхалагічнай дыягностыкі вучняў 8—11 класаў, якая дапамагае школьнікам правільна выбраць сферу сваёй будучай дзейнасці.**

**Пра гэта мы папрасілі расказаць кіраўніка аддзялення Асацыяцыі ПСІХАСАНА, псіхолага школы №9 Мінска Аляксандра Шамшурына.**

**— Аляксандр Генадзьевіч, што ўяўляе сабой праграма комплекснай псіхалагічнай дыягностыкі і якія вынікі дае практычнае яе выкарыстанне?**

— Комплексны падыход складаецца з чатырох блокаў. Гэта ацэнка інтэлектуальных магчымасцяў вучня, выяўленне яго прафесійных пераваг, вывучэнне асаблівасцяў характару, дыягностыка асаблівасцяў міжасобасных узаемінаў. Вучні запаўняюць спецыяльныя анкеты, а мы потым робім камп'ютэрную апрацоўку адказаў.

У выніку аналізу кожны вучань атрымлівае раздрукоўку з характарыстыкай свайго інтэлектуальнага патэнцыялу, рэкамендацыямі па карэкцыі характару, указаннем найбольш падыходзячай сферы прафесійнай дзейнасці.

Пратаколы дыягностыкі з данымі пра інтэлектуальныя здольнасці вучня і пра тып яго інтэлекту (тэхнічны, гуманітарны, сфера мастацтва і інш.) выдаюцца таксама дырэктару школы і класнаму кіраўніку.

Менавіта дзякуючы гэтай методыцы нам удалося стварыць "банк адораных дзяцей". Яна ж дапамагае больш граматна і навукова фарміраваць профільныя класы, куды павінны трапляць дзеці з адпаведным тыпам інтэлекту. Але найбольш неабходна методыка дзецям, для якіх так важна хутка і правільна выбраць сферу дзейнасці, дзе яны змогуць поўнасцю рэалізаваць сябе.

**— Пры ўсіх станоўчых выніках дзеяння методыкі бачыцца адзін небяспечны момант. Сказаць прама чалавеку, а тым больш — дзіцяці, што ў яго зніжаны ўзровень інтэлекту, — гэта нанесці немалы ўдар па яго самалюбству. І дзе гарантыя, што такі вучань не будзе аднесены якім-небудзь настаўнікам да неперспектыўных і на яго наогул не махнуць рукой?**

— У пратаколе дыягностыкі мы заўсёды ўказваем, што на вынік даследавання ўплыў аказваюць вельмі многія фактары: стомленасць, дрэннае самаадчуванне, часам несур'ёзнае стаўленне да тэста. І адразу адносіць вучня да няздольных няправільна.

Часцей бывае наадварот. Школьнік дрэнна вучыцца, а дыягностыка паказала ў яго выдатныя здольнасці. Мы заклікаем тэрмінова шукаць прычыну непаспяховасці вучня. Гэта можа быць няўменне вучыцца (у такім выпадку патрэбны дадатковыя заняткі), ранейшыя ўпушчэнні, міжасобасныя адносіны з настаўнікам, а часцей проста гультайства. Тады бацькі дзякуюць нам: "Мы ж думалі, ён не здольны. Нічога асабліва і не патрабавалі. Цяпер мы яго возьмем у рукі".

**— Псіхалагічная дыягностыка паказала, што ў вучня выдатныя тэхнічныя здольнасці, а ён жадае стаць гуманітарыем. Як суаднесці жаданне школьніка з яго рэальнымі магчымасцямі?**

— Сапраўды, мы, дарослыя, часам не ведаем, што нам патрэбна. А дзеці — тым больш. Таму мы павінны дапамагчы ім вызначыцца ў жыцці. Комплексная дыягностыка многапланавая і многаўзроўневая, акрамя ўсяго іншага, яна ўлічвае і жаданне школьніка.

Вось, напрыклад, анкета вучня 9 класа Х.Юрыя. Сам ён аддае перавагу ваеннай справе або прадпрымальніцтву (відаць, даніна модзе). Але са сваім місіянерскім складам характару ён не зможа зрабіць кар'еру або нават проста працаваць у гэтых сферах. Юрыю найбольш падыходзіць тэхнічная або мастацкая творчасць. Падчас размовы высветлілася, што ён, бывае, зазірае на працу відэааператара. Гэта ж тое, што патрэбна: тэхніка плюс мастацтва. Зараз Юра ходзіць у адпаведны гурток, выбарам вельмі задаволены.

Часцей мы ўказваем не прафесію, а сферу (ці нават некалькі) дзейнасці. Кім быць — вучань усё ж такі вырашае сам. Мы пазбягаем тых памылак, якія робяць прафарыентатары. "Ты — прыроджаны геолаг", — гавораць школьніку. А ён потым не праходзіць па стану здароўя і лічыць, што жыццё скончана.

Надрукаваныя вынікі дыягностыкі мы аддаём вучню, многае тлумачым. Дзеці вераць нам, а мы рады, што можам дапамагчы ім зрабіць важны крок у жыцці — выбраць прафесію.

**— Вышэй у нашай размове вы сказалі пра "банк адораных дзяцей". Што вы мелі на ўвазе?**

— Гэта агульнавядома. 2—2,5% дзяцей — маленькія геніі. Наш банк — гэта спісы хлопчыкаў і дзяўчынак з выдатнымі здольнасцямі і высокім інтэлектуальным патэнцыялам. У звычайных класах гэтыя дзеці вельмі пакутуюць. Іх вялізная працаздольнасць там нікому не патрэбна, яны недагружаны, іх талент гіне.

Такіх дзяцей трэба адшукваць, збіраць разам, развіваць іх разумненькія галоўкі.

**— Так, можна, канешне, сабраць разам усіх адораных дзяцей краіны, даць ім лепшых настаўнікаў, кнігі, абсталяванне. Але ці будзе лепш дзецям, калі іх вырвуць з сям'і, ад сяброў, хай сабе не вельмі геніяльных? Хіба гэта не паўплывае негатыўна на развіццё дзіцяці?**

— Так, тут ёсць свае "за" і "супраць". Але адораныя дзеці маюць асабістыя нетрадыцыйныя якасці, і разам са звычайнымі школьнікамі ім таксама нялёгка.

Раней у нас усе дзеці былі роўныя — савецкія. Цяпер, калі Беларусь лічыць сябе дэмакратычнай, выхаванне геніяў павінна стаць адным з элементаў дзяржаўнай палітыкі. З адоранымі дзецьмі трэба займацца псіхолагам, вучоным, вынаходнікам.

Чытаю аднойчы на слупе аб'яву арганізацыі, у назве якой ёсць слова "інтэлект". Афармляе візы за мяжу — садзейнічае "выплыванню" мазгоў на Захад. А пасля многіх публікацый у друку пра "банк адораных дзяцей" у нас так і не прагучала ніводнага званка з прапановамі.

**— Будзем спадзявацца, што "Настаўніцкая газета" трапіць у рукі неабыякаваму чалавеку з пэўнымі магчымасцямі...**

**І апошняе. Наколькі рэальна школа можа набыць камп'ютэрную праграму комплекснай псіхалагічнай дыягностыкі?**

— Псіхалагічная дыягностыка ў нашай краіне праводзіцца ўжо трэці год. Праграмы ўвесь час удасканальваюцца і апрабуюцца. І калі школа сапраўды клапоціцца пра лёс сваіх выхаванцаў, то падобныя методыкі ёй проста неабходны. Каштуюць яны дастаткова танна. Калі ж у школе ёсць спецыяліст-псіхолаг, пры наяўнасці камп'ютэра правесці псіхалагічную дыягностыку нескладана. Даследаванні могуць зрабіць таксама і нашы спецыялісты.

За дадатковай інфармацыяй зацікаўленыя могуць звяртацца па тэлефонах: 26-17-81, 27-06-01.

Гутарку вяла
**Галіна СІДАРОВІЧ.**

# ТУСОЎКА

## "Пасяджэнне" 1-е: "Калі б дырэктарам школы быў я..."

**Чаму менавіта такая назва — "тусоўка"? Па-першае, яна адлюстроўвае мэту рэдакцыі: паказаць школу вачыма вучняў, а дзе ж яны найшчырэйшыя, як не на тусоўцы, калі няма побач кантралюючага строгага вока педагогаў? Па-другое, мы хочам, каб размова з вучнямі была без папярэдняй "цэнзарскай прапрацоўкі" і, па-трэцяе, каб вучні былі ўпэўнены, што за шчодрасць да іх не будуць прыменены "аргвывады".**

**Таму і першая размова з 11 "А" класам мінскай сярэдняй школы №37 атрымалася такой, якой атрымалася: то сур'ёзнай, то жартаўлівай, а то іранічнай. Але — шчырай і непасрэднай. На тое ж і тусоўка.**

**А мы давайце паслухаем юнакоў і дзяўчат. І падумаем, паразважаем...**

— Калі б мне даверылі пасаду дырэктара школы (юнак усміхаецца)... Дзіўна, а хто мне яе даверыць, простаму вучню? Такое немагчыма. Каб сесці ў гэтае "цяжкае" крэсла, патрэбны вопыт. Гадкоў дзесяць звычайным настаўнікам папрацаваць не пашкодзіла б. А ў настаўнікі я не збіраюся.

Пытанне: А ці ёсць сярод вас жадаючыя свой лёс звязаць са школай.

— У школу! Ні за што! Чаму? Таму што ў школе настаўніку сёння вельмі цяжка працаваць. Бедныя нашы настаўнікі!..

— І мы разам з імі бедныя. У школе і настаўніку, і вучню стварылі невыноснае жыццё. Мне нават здаецца, што нам, вучням, значна цяжэй, чым настаўнікам. Настаўнік правёў свой урок і вольны. А мы? Нам яшчэ, адсядзеўшы ў школе шэсць ці сем урокаў, патрэбна дома карпець над падручнікамі, рыхтаваць дамашнія заданні. І часам іх столькі, што фізічна не вытрымліваем усё выканаць, дый махнём рукой: а мо пранясе... Такім чынам, атрымліваецца, што ў нас 12-гадзінны працоўны дзень. А гэта значыць — парушаюцца правы вучняў.

— Вось таму, каб я быў дырэктарам, — падаў голас юнак з "камчаткі", — я усім вучням выдаў бы медалі.

— А наогул, цікава ўявіць сябе ў ролі дырэктара школы... Але гледзячы на які час. За тыдзень я, бадай, анічога не паспею зрабіць, хіба што перафарбаваць у іншы колер сцены нашай школы, больш весялейшы, яны мне не падабаюцца. Нават за год я ніякай бы рэвалюцыі ў школе не паспеў бы зрабіць. Тут, як ні круці, патрэбны прафесійнае майстэрства, веды. Калі ты кіраўнік — ты павінен быць на ўзроўні.

— Пры чым тут рэвалюцыя! Трэба пачаць з простага. Трэба ўсім добра падумаць, што зрабіць для таго, каб у школе вучням было цікава вучыцца. Мне здаецца, што тыя дзядзечкі наверсе, што складаюць для нас навучальныя праграмы, не думаюць ні пра настаўнікаў, ні пра вучняў. Школьныя праграмы загрувашчаны непатрэбным, па многіх прадметах няма добрых падручнікаў. Падручнік павінен быць такім, каб па ім было цікава вучыцца, каб ён быў напісаны не навукападобнай, а простай зразумелай мовай. Мы ж яшчэ не аспіранты, а простыя вучні. Яны, тыя дзядзечкі наверсе, а не нашы настаўнікі, вінаватыя ў тым, што нам цяжка вучыцца ў школе. Мабыць, таму сёння і падае прэстыж ведаў.

— Зараз вось (усе разам загінаюць пальцы) ажно семнаццаць прадметаў нам прапанавана! Гэта ж здзек!

— І многія з іх мне ніколі ў жыцці не спатрэбяцца! А вучыць трэба! Дзеля адзнакі. Не будзем жа абрастаць тройкамі, падводзіць сябе і бацькоў. Прыйдзеш са школы дадому стомлены, і так хочацца крышачку адпачыць, а тут зноў вучы, вучы, вучы...

— Ну, а для мяне, напрыклад, адзнакі ніякай ролі не маюць. Не ўсякая "5" сведчыць пра выдатныя веды па тым ці іншым прадмеце. І "троечнікі" розныя бываюць.

— Вось на заўтра, напрыклад, нам патрэбна прачытаць першую частку "Маці" М.Горкага, напісаць сачыненне, далей... вывучыць фізіку, хімію, гісторыю... і г.д.

— І навошта толькі мы вывучаем гэты твор па рускай літаратуры (маецца на ўвазе "Маці" М.Горкага — С.Б.). Па-першае, ён зусім не цікавы, а, па-другое — сёння ён не актуальны. Мова там нейкая непрыгожая, састарэлая. А пра тую ж рэвалюцыю столькі цікавых кніжак напісана!.. Хіба пра гэта не ведаюць тыя, хто складае школьныя праграмы? Яны не ідуць у нагу з часам.

— Я прапанавала б замест творчасці Максіма Горкага вывучаць творчасць Бальзака ці больш глыбока Фёдара Дастаеўскага...

— А тое, што вучням цікава — скарачаюць. Напрыклад, усе мы вельмі палюбілі сусветную мастацкую культуру, прадмет гэты вельмі цікава выкладае ў нас настаўніца рускай мовы і літаратуры Марына Барысаўна Палітыка. А цяпер з гэтага курса хочуць скараціць літаратуру.

— Калі б я быў дырэктарам школы, я зрабіў бы ўсё для таго, каб вучні болей ездзілі на экскурсіі, вандравалі па свеце, за мяжу, у розныя суседнія і далёкія краіны. Гэта ж так цікава — набыць сабе новых сяброў! Расказаць пра сябе, паведаць пра іхняе жыццё. Праўда, цяпер грошай у школе няма. Самі настаўнікі мізэрныя грошы атрымліваюць. Знайсці б добрых фундатараў. Раней наша школа мела шэфаў — аб'яднанне "Мілавіца". А цяпер яны супрацоўнічаюць з Германіяй і пра нас забыліся. Фундатары дапамаглі б набыць новую тэхніку, сучасныя камп'ютэры. У нашай школе не камп'ютэры, а металалом. А яшчэ я парамантаваў бы наш лінгафонны кабінет.

— Добра было б яшчэ ў школе праводзіць болей дыскатэк, цікавых мерапрыемстваў, каб жыццё наша было весялейшым. У нас добрыя настаўнікі, у кожнага свае плюсы і мінусы. Вельмі любім свайго класнага кіраўніка Алену Фёдараўну Осіпаву.

— Калі б я была дырэктарам школы, то не рабіла б над вучнямі такія эксперыменты, як гэта зрабілі з намі. Наш клас створаны з некалькіх былых дзевятых, нібыта лепшых вучняў. Але цяпер у класе з лепшых вучняў многія з нас сумуюць па дзевятым, па той атмасферы, якая ў ім панавала. Мы вельмі дружныя былі, цікава жылі, звыкліся. Наш калектыў разбурылі, не пытаючыся ў нас. Я лічу, што так рабіць нельга.

**Пра многае яшчэ разважалі гэтыя пятнаццаць юнакоў і дзяўчат адышоўшы ад тэмы размовы. Закранулі і тэму агульначалавечых каштоўнасцяў, ідэалаў у жыцці. Яны мараць пра сапраўднае каханне, шчаслівую сям'ю, добрых сяброў і любімы занятак у жыцці, жадаюць, каб у Беларусі хутчэй стабілізавалася жыццё, каб квітнела Айчына. Многія ўжо сёння ведаюць, у якія навучальныя ўстановы будуць паступаць у будучым годзе: юрыдычны факультэт БДУ, медыцынскі інстытут, школа міліцыі, лінгвістычны універсітэт і г.д.**

**Кім стануць яны, якую справу абяруць, як лёс павернецца да іх? Мажліва, што некага з іх ён ўсё-такі пакліча і ў школу. На жаль, не заўсёды ў жыцці нашы мары становяцца явай. А пакуль жа гэтыя адзінаццацікласнікі лічаць, што ў сённяшніх умовах прафесія настаўніка справа складаная і няўдзячная.**

**У размове прымалі ўдзел: Вольга Юранава, Вольга Хатунцава, Юрый Чарняк, Таццяна Станькова, Алена Сінькевіч, Аляксей Перкаль, Святлана Сілко, Дзіма Метрык, Вольга Кузняцова, Юрый Канаш, Уладзіслаў Міхайлаў, Марыя Гіро, Таццяна Герасіменка і іншыя.**

**Святлана БЕНЬ.**



# АЙЧЫНА

№ 2

АСВЕТНІЦКІ ДАДАТАК ДА "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ"

"Понеже от прироження звери, ходящие в пустыни, знають яны своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнёзда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чуют вири своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".

Ф.Скарына.

## МЫ — БЕЛАРУСЫ



Калектыў школьнага ансамбля "Вячоркі" з мазырскай сярэдняй школы №2 рыхтуецца адзначыць сваё пяцігоддзе. За гэты час юныя артысты выступілі ў Маскве, Гомелі і, вядома, не раз — перад сваімі землякамі. А гэтым летам пабывалі ў Германіі.

Кожнае выступленне ансамбля прымаюць на "біс". І ўсё таму, што рэпертуар яго — з беларускага нацыянальнага фальклору.

А з'явіўся ансамбль пасля таго, як у школе стаў працаваць этнаграфічны музей. Стварылі яго дзеці пад кіраўніцтвам Вольгі Паўлаўны Кудрыцкай. Сабраўшы нямала цікавых экспанатаў, яны вырашылі, што добрым дапаўненнем ім стане народная песня.

НА ЗДЫМКУ: мы — з "Вячорак".

...Беларусь, Беларусь, ты
ядына маё заляцанне, ты
і вера мая, і надзея мая,
і любоў ты мая, і каханне..!

Язэп ЛЁСІК

## ПОСТАЦІ БЕЛАРУСІ

# ЯЗЭП ЛЁСІК

### ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Эпоха патрабавала геніяльных людзей і нарадзіла іх.

Люблю цябе я, Нёман сіні,
Люблю цябе я, Беларусь,
Люблю я слухаць ціхі гоман,
Стаяць на беразе ў лоз.

Гэтыя радкі з верша-песні, якую склаў і спяваў Язэп Лёсік і якую не раз выконваў мой бацька Міхась Ігнатавіч Міцкевіч, з маленства запалі мне ў душу, прывівалі нешта святое, ласкавае, роднае і блізкае, што разумеецца як нацыянальная ідэя, якая з'яўляецца стрыжнёвай у светапоглядзе і творчасці Я.Лёсіка і якой самаахвярна аддаў жыццё вялікі гуманіст і асветнік, навукоўца, пісьменнік і Грамадзянін.

Без нацыянальнага вызвалення не можа быць сацыяльнага вызвалення — такі дэвіз акадэміка Язэпа Лёсіка.

Люблю глядзець, як месяц свеціць
І ўсё кругом мёртвым сном спіць,
А ён бяжыць, дарогу меціць
І ўсё навокал залаціць!

Мілагучнасць, улюбёнасць, нешта чароўнае ў гэтай песні. Калі зараз ведаеш долю генія-волата Язэпа Лёсіка, якому даводзілася хавацца ад царскіх сатрапаў, не спаць начамі і думаць свае думы аб лёсе беларускага народа і нашай маці-Беларусі, такім выразным і жывым становіцца сэнс гэтых радкоў.

Цяжкі лёс сустрэў Язэпа Лёсіка. Ён аб гэтым ведаў, бо пісаў:

А ты бяжыш і сам не знаеш...
У далёкім краі прападзеш...
І ціха, горка ты заплачаш,
Па каплі слёз не сабярэш..!

Нічога нельга дабавіць да напісанага, так мог тварыць творца-прарок, чалавек з жалезнай воляй, шчырым сэрцам і ясным розумам.

Ведаў свой лёс, ведаў, што чакаюць яго здзекі і пакуты, але не пахіснуўся, не зламаўся, бо любіў свой край, любіў свой народ.

Язэп Лёсік вучыў і вучыць нас свядома бараніць справу адраджэння, з разумным пераканаННем стаяць на грунце сваіх нацыянальных інтарэсаў, а для гэтага трэба добра ведаць сваю гісторыю, сваю культуру, мову, фальклор, літаратуру, побыт і нацыянальны склад жыцця.

Вялікага змагара, асветніка, вучонага і грамадска-палітычнага дзеяча любілі нашы людзі, па яго працах вучыліся жыць і дзейнічаць, бо гэта была жыццёвая праўда, за якую ён пакутаваў. Вось чаму яго так ненавідзелі і баяліся як царскія жандармы, так і энкавэдысты. Больш 15 гадоў мучылі яны яго ў няволі і замучылі!

Твой крыж з крыжоў —
Самы крыжаваты
Таму, што шмат разоў
На ім быў ты распяты.

Але ўсё па парадку.

### БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ

Нарадзіўся Язэп Юр'евіч Лёсік 6 лістапада 1884 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага павета і губерні (зараз Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці) у сям'і селяніна-рыбака.

Мікалаеўшчына — гэта богам выбраны і аздоблены край. Яна ўзнікла як адно з паляўнічых прыстанішч вялікага асветніка, князя-кальвініста Міколы Чорнага Радзівіла ў XVI стагоддзі, хаця, як сведчаць археолагі, людзі тут жылі больш 20 тысяч гадоў таму назад.

Рос Язэп Лёсік, як і ўсе вясковыя дзеці. З усёй ягонай творчасці бачна, што ён добра ведаў сялянскае жыццё, дапамагаў старэйшым, сябраваў з суседскімі дзецьмі, хадзіў у школу. Пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай пачатковай школы ягоныя бацькі аддалі яго вучыцца ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але нечакана, як кажуць, ён "праваліўся". Брат Язэпа Лёсіка Антон у сваім артыкуле "З жыцця Язэпа Лёсіка" адзначае: "Прычынаю гэтай няўдачы Язэпа міжвольна быў я. Здарылася так, што інспектар народных вучылішчаў з Мінска на рэвізіі маёй школы ў Койданаўскай воласці ў 1892 годзе зрабіў запіс у класным журнале: "Настаўнік не толькі не папраўляе вучняў, калі яны гаварылі па-беларуску, але і сам гаварыў па-беларуску". Гэты запіс з дырэкцыі народных вучылішчаў пераслалі ў Нясвіжскую семінарыю, якую я скончыў. Дырэктар вельмі абурыўся. Гэтаму факту надалі палітычны характар. Раней адносіны дырэктара да мяне як да прыкладнага вучня былі вельмі добрыя.

Пасля прыведзенага факта добрыя адносіны змяніліся на варожыя. Звычайна калі адзін брат вучыўся ў семінарыі добра, дык і другі мог лёгка вытрымаць экзамены. Так было б і з Язэпам, каб не выйшла адзначанага здарэння са мною. Язэпа на экзамене "зрэзалі".

Гэты інцыдэнт паклаў немажлівасць Язэпу вучыцца ў Нясвіжскай семінарыі. Трэба было думаць аб выбары іншай навучальнай установы.

У 1898 годзе Язэп паступіў у Маладзечанскую семінарыю. Але ў Язэпа быў круты характар, ён не мог змірыцца са здзекамі начальства, выказваў свае думкі проста і адкрыта, гаварыў тое, што думаў. Вось чаму ён быў непажаданым вучнем і быў выключан з семінарыі з другога класа без права паступлення ў іншыя настаўніцкія семінарыі. Жаль і смутак ахапіў усю сям'ю. Што рабіць? Як паступіць? Аб сваім горы бацькі напісалі Антону. "Я напісаў, каб Язэп прыехаў да мяне ў Ноўгарад-Северск вучыцца ў Гарадскім вучылішчы. Паступіў Язэп у апошні клас і ў 1902 годзе скончыў яго". У дадатак да ўсяго ён бліскуча здаў экстэрнам экзамен за поўны курс гімназіі ў гэтым жа горадзе і атрымаў пасведчанне на права быць настаўнікам народнага вучылішча.

Язэпа Юр'евіча накіравалі выкладчыкам рускай мовы ў Бабруйскую сельскагаспадарчую школу. Але і там ён працаваў толькі адзін год. Відаць, цяжка было яму зжыцца з бюракратычным начальствам. А магчыма, была іншая прычына. Аб гэтым гісторыя маўчыць. Вядома толькі, што ў 1903 годзе Язэп Лёсік вярнуўся ў Ноўгарад-Северскі, што на Чарнігаўшчыне, да брата Антося, дзе з яго дапамогай уладкаваўся на працу ў школе мястэчка Грамяч, дзе большая частка насельніцтва гаварыла па-беларуску.

Тут, у Грамячы, Язэп Юр'евіч і пачаў сваю рэвалюцыйную дзейнасць, карыстаючыся вялікім аўтарытэтам і павагаю ў жыхароў гэтага мястэчка.

Набліжаўся 1905 год. Палітычнымі і рэвалюцыйнымі падзеямі цікавіліся тады ўсе, ад малога да старога.

У мястэчковай школе, дзе працаваў Язэп Юр'евіч, заўсёды было мнагалюдна, кожны хацеў паслухаць палітычнага прамоўцу-настаўніка. Як вядома, настаўніцтва (асабліва на вёсцы) было галоўным трыбунам прапаганды рэвалюцыйных ідэй, але настаўніцтва не было ў той час аб'яднана арганізацыйна. Адна са спроб аб'яднаць настаўніцтва для рэвалюцыйнай справы была зроблена ў вёсцы Мікалаеўшчына вясною 1906 года. Тут вакол мясцовага настаўніка Антона Сянькевіча аб'ядналіся ягоныя сябры-аднадумцы Я.Колас, І.Міцкевіч, А.Райскі, Н.Янкоўскі, А.Аляшкевіч ды іншыя. Яны ўтварылі камуну, пачалі складаць пракламацыі, друкаваць і рассылаць іх саматужным чынам. Пракламацыі накіроўваліся супраць трох кітоў: цара, землеўласнікаў і царквы.

Мы ведаем, чым скончыўся з'езд мясцовага настаўніцтва ў Мікалаеўшчыне: большасць настаўнікаў трапілі ў турму, іншыя ўцяклі за граніцу. Арыштаваны быў і Язэп Юр'евіч. Гэта адбылося ў 1905 годзе. Яго арышт абурыў жыхароў Грамяча, якія хацелі сілаю вызваліць Я.Лёсіка з турмы. Прыйшлося Антону Юр'евічу пераконваць іх у дарэмных намаганнях.

Калі вестка аб арышце Язэпа Лёсіка дасягнула вёскі Мікалаеўшчыны, калі родныя і блізкія даведаліся, што яго пасадзілі ў турму, гэта зрабіла не меншае ўражанне, чым грымоты з яснага неба. Як жа так? За што пасадзілі? Ён жа нічога ніколі чужога не браў, нікога не крыўдзіў! Асабліва перажывала маці.

Такой ганьбы яна вытрымаць не магла і неўзабаве памерла.

У 1906 годзе Язэпа Лёсіка перавезлі на суд у горад Старадуб на Чарнігаўшчыне. Тут яму ўдалося збегчы з турмы. Спачатку ён хаваўся ў Мікалаеўшчыне. Хаваўся Язэп Лёсік і ў Пецярбургу, і ў свайго брата на станцыі Красоўка каля Луганска.

"Язэп, — піша Антон Юр'евіч Лёсік у 1908 г., — з Красоўкі прыехаў да мяне, бо хавацца далей было цяжка. Зразумела, што ў Ноўгарад-Северску яго хутка арыштавалі і зноў перавезлі ў Старадуб на суд. Цяпер суд вынес значна цяжэйшае пакаранне за тое, якое магло б быць у 1906 г. Цяпер Язэпа прысудзілі да бестэрміновага высялення ў Сібір, дзе ён жыў да канца царскага самаўладства да 1917 года".

15 сакавіка 1908 г. абвешчаны прысуд уваходзіць у законную моц. Бестэрміновая высылка ў Сібір са стратаю правоў на маёмасць, наследаванне, страта грамадзянскіх правоў і магчымасці знаходзіцца на дзяржаўнай, саслоўнай, земскай гарадской ці грамадзянскай службе. Але самае галоўнае — страта правоў настаўнічаць.

4 мая 1908 г. у Старадубскай турме зняты дактыласкапічны аркуш за №91. 19 мая 1908 г. турэмным фатографам робяцца здымкі ў анфас, профіль і поўны рост.

А вось копія рашэння Кіеўскай Судовай Палаты па Крымінальнаму Дэпартаменту, якое было прынята на закрытым судовым

(Працяг на 5-й стар.)

Лявон ГМЫРАК (Мечыслаў Бабровіч)

## СВАЙГО НЕ ЧУРАЙЦЕСЯ, ЧУЖОМУ НАВУЧАЙЦЕСЯ

"Чужому навучайцеся, свайго не чурайцеся", — гэтыя словы вялікага ўкраінскага паэта Шаўчэнкі заўсягды трэба памятаць і ніколі нельга забываць нам — беларусам. Нашы ворагі ўсімі годнымі, а яшчэ часцей нягоднымі спосабамі стараюцца давесці нас да таго, каб такі мы свайго адчураліся, забыліся, хто мы такія, перасталі быць беларусамі і перарабіліся на расейцаў ці палякаў. Іхняя работа даўно ўжо вядзецца — дужы надта нашы ворагі, — у кабальнай, эканамічнай і ўсякай іншай залежнасці ад іх знаходзіцца наш народ. Не дзіва, што і шмат такі яны патрапілі нам пашкодзіць. Не ўдалося ім, праўда, дабіцца таго, каб увесь народ перастаў гаварыць роднай мовай, сваіх абычаяў усіх адрокся; але ўдалося задурыць народу галаву так, што народ наш стаў думаць, быццам яго мова і звычаі нейкія "простыя", і кожны бязмала беларус, якому ўдалося дабіцца трошкі лепшых варункаў жыцця, ухапіць трошкі асветы, ужо станавіўся саўсем чужым народу, з якога выйшаў, і, гледзячы па веры, лічыў сябе ці расейцам, ці палякам.

Калі пачалося беларускае адраджэнне, калі з'явіліся людзі, глыбока адчуваючыя сваю кроўную сувязь з беларускім народам, людзі, хочучыя шчыра працаваць для яго лепшай долі, то ім стала ясна, што свайго чурацца нельга, бо, толькі стоячы на сваёй нацыянальнай аснове, народ можа нармальна развівацца і рабіць свой уклад у агульналюдскую культуру. Але побач з гэтым гаварылася, што і "чужому навучацца" трэба. Спору ў нас наконт гэтага не было — гэта праўда элементарная і ўсімі прызнаная. Словы "свайго не чурайцеся, чужому навучайцеся" пішуцца як эпіграф на беларускіх кніжках, і гэта думка праводзіцца ў іх у газетах.

Мы добра ведаем, што ўсе нацыі знаходзяцца ў цеснай залежнасці адна ад другой і што супольныя ў іх інтарэсы не толькі эканамічныя ды палітычныя, але таксама і культурныя. А нават на грунце культурным яны найкрапчэй звязаны адны з другімі. Нядаўна, у №34 "Нашай нівы", ягамосць Юры Верашчака ў артыкуле "Ці ёсць расейская і польская культура", разгледзеўшы гэту справу, ясна паказаў, што ёсць цяпер агульналюдская культура, у якую ўсе культурныя нацыі палажылі сваю долю працы і з якой усе карыстаюцца. Англіец Стэфансон выдумаў чыгунку, амерыканец Фультон — параход, немец Гутэнберг — друк, а карыстаюць з гэтага не толькі аднапляменцы гэтых вялікіх людзей, а ўсё чалавецтва. Вучоныя, мысліцелі ўсіх краёў і народаў: французы, немцы, англійцы, італьянцы, расейцы, палякі — тое ці другое выдумлівалі, такую або іншую навучную тэорыю ўстанаўлівалі, а карысць з гэтага для ўсіх выйшла.

Вялікія пісьменнікі і паэты: Шэкспір, Байран, Шылер, Гейнэ, Гюго, Дастаеўскі, Талстой і іншыя; маляры штук-майстры: Рафаэль, Міхель Анжэлі, Рубенс, Вандэйк; музыкі: Моцарт, Бетховен, Шапэн і інш. таксама невядомай сілай ударяюць па сэрцах усіх культурных людзей, да якой бы яны нацыі ні належалі. Той народ, які тэтай праўды, што і чужому навучацца трэба, не разумее ці не хоча разумець, праз гэта асуджае сябе на культурны застой, таксама як той народ, які чураецца свайго, асуджае сябе на пагібель. Адным словам, са скарбаў агульналюдской культуры павінны мы карыстацца, але разам з тым павінны мы і самі жыць сваім культурным жыццём, каб магчы даць і сваю долю ў скарбніцу агульналюдской культуры, а даць тады толькі зможам, калі будзем стаяць на сваёй нацыянальнай анcове, калі свайго не будзем чурацца.

Праўда, ад таго часу, калі вышэйшыя станы ў нас адракліся ад свайго народу, ад роднай мовы і звычаяў, калі ўсе "выйшаўшыя ў людзі" пераходзілі да чужых і для іх працавалі, а прайшло з той пары ўжо не мала часу, — беларушчына затрымалася на мёртвай точцы, не развівалася далей, а праз гэта наша нацыянальнае багацце пакуль што не надта вялікае.

Тым болей і энергічней павінны мы працаваць, каб дагнаць другіх, каб папоўніць усе недахваты шматвяковага застою, каб як найхутчэй паўнапраўнымі сябрамі ўвайсці ў агульналюдскую сям'ю. Увайсці ж мы туды зможам толькі як беларусы, толькі цвёрда стоячы на грунце нацыянальнай асобнасці.

1913 г.

**У канцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя на тэрыторыі Беларусі было 6 мужчынскіх гімназій. У канцы 60-х з'явіліся чатыры жаночыя гімназіі і дзве прагімназіі.**

**Была гімназія і на Палессі — у Мазыры. Яе выпускнікі вучыліся далей ва універсітэтах Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева і Варшавы.**

**Традыцыйна Беларусь лічылася і лічыцца вельмі беднай. Гэта думка падтрымліваецца нават нашымі дзяржаўнымі дзеячамі. Але іншы погляд — у працах спецыялістаў: па еўрапейскіх нормах, у геалагічных адносінах мы багатая краіна. Шмат дзяржаў зайздросціць нам.**

**Аб тым, што гэта быў склеп, можна здагадацца па буйных камянях, што вытыркаюцца з узгорка. На месцы магіл — ямы, на дне адной з іх — абломак металічнай труны. Яшчэ нядаўна тут бачылі кавалкі матэрыі, валасы...**

**Публікацыі пра касцёл Алены і Сымона і ўбачанае на зарослым хмызняком узгорку сярод поля — няўжо гэта можна супаставіць?**



З ГІСТОРЫІ АДУКАЦЫІ

# МАЗЫРСКАЯ ГІМНАЗІЯ

Кожны, хто наведаў музей адукацыі Мазыра і Мазыршчыны, што адкрыўся ў кастрычніку 1993 года ў сярэдняй школе №13, абавязкова прыпыніўся каля раздзела, які расказвае аб гісторыі Мазырскай мужчынскай гімназіі. Тут і фотаздымак невялікага будынку, дзе была размешчына гімназія, і груповы здымак першага выпуску, і тагачасныя падручнікі, сшыткі, пісьмовыя прылады, дакументы.

Ёсць у нас і ўнікальная кніжка, якая была надрукавана ў Мазыры, ў 1909 г. і падаравана музею былым гімназістам Канстанцінам Матулевічам. Яе назва — "Историческая записка о Мозырскай прагимназии". Аўтар — сакратар педагагічнай рады, выкладчык гісторыі і геаграфіі Канстанцін Васільевіч Шпакоўскі.

Сёння, калі як грыбы пасля добрага дажджу, у нашай краіне растуць прэстыжныя навучальныя ўстановы — гімназіі, ліцэі і нават установы з такімі экзатычнымі назвамі, як каледжы, было б карысна заглянуць у не такую ўжо і далёкую мінуўшчыну, аб якой мы яшчэ даволі мала ведаем.

У 1909 годзе ў Мазыры вельмі ўрачыста было адзначана 50-годдзе Мазырскай гімназіі (прагімназіі), а праз наступныя 50 год (1959) пра 100-гадовы юбілей ніхто і не ўспомніў: ці не ведалі, ці не цікавіліся.

Такім чынам, як яна пачыналася?

## ПАДАРУНАК

Зразумела, што гімназія была далёка не першай навучальнай установай у Мазыры. Са старажытных часоў існавалі царкоўныя, пачатковыя, павятовыя школы. Першая сярэдняя навучальная ўстанова была створана езуітамі ў сярэдзіне XVIII ст., на некалькі гадоў яе пераводзілі ў Юравічы, а з 1781 г. езуіцкае вучылішча зноў працуе ў Мазыры. У 1799 г. (ужо ў складзе Расійскай імперыі) постезуіцкая школа (так яе цяпер называлі) была перайменавана ў чатырохкласнае павятовае вучылішча.

У 1843 годзе яно стала Дваранскім пяцігадовым вучылішчам, у якое да 1837 года прымалі толькі дваранскіх дзяцей, а затым дазволілі прымаць дзяцей і з іншых саслоўяў, акрамя сялян.

Дваранскае вучылішча не давала права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, што выклікала незадаволенасць бацькоў. Шляхта Мазырскага і суседняга Рэчыцкага паветаў пачала дамагацца адкрыцця ў Мазыры мужчынскай гімназіі. Шмат паперы было патрачана на хадайніцтва ў самыя высокія інстанцыі, пакуль 7 кастрычніка 1859 года адначасова з закрыццём павятовага вучылішча быў дадзены дазвол на адкрыццё гімназіі. Выконваючы абавязкі дырэктара К.Ф.Вронскі разам з інспектарам і адным настаўнікам прыбыў у Мазыр і пачаў прыёмныя экзамены ў I—III класы.

24 лістапада пачалі праводзіць заняткі настаўнікі, якія прыехалі ў Мазыр.

У 1860 годзе пачалі займацца 4 — 6 класы, у 1861 — выпускны сёмы. З 1865 гімназія становіцца класічнай, у ёй пачалі вывучацца лацінская і грэчаская мовы.

Для размяшчэння гімназіі ў мясцовага памешчыка Сабіна Лянкевіча купілі два будынкі: каменны і драўляны. На куплю і рамонт памяшкання шляхта сабрала 8 тыс. рублёў — суму ў той час унушальную. У наступныя гады рабілі перабудовы, прыбудовы, але памяшканні заставаліся тымі ж.

Невялікі двухпавярховы будынак гімназіі захаваўся. Зараз ён уваходзіць у комплекс санаторна-лясной школы. Цяжка нават уявіць, як у такім маленькім памяшканні размяшчалася гімназія.

Зробім невялікае адступленне. Вядома, што ў канцы 30-х гадоў 19 ст. на тэрыторыі цяперашняй Беларусі было 6 гімназій. У канцы 60-х гадоў мужчынскіх гімназій заставалася шэсць, паявіліся чатыры жаночыя гімназіі і дзве прагімназіі. Пры такіх умовах з'яўленне гімназіі ў зусім маленькім горадзе на Палессі (у сярэдзіне 60-х гг. XIX стагоддзя ў Мазыры жыло 4336 чалавек, было 502 дамоў; у 1878 г. — 7834 чалавек, 25 каменных і 1082 драўляных дамоў), сярод непраходных балотаў і лясоў, было справай незвычайнай. У маладую навучальную ўстанову пацягнуліся дваранскія дзеці не толькі з Мазыра і Мазырскага павету, але і з іншых месц. Гімназія станавілася вядомай.

Першыя яе выпускнікі вучыліся ва ўніверсітэтах Санкт-Пецярбурга і Масквы, Кіева і Варшавы. Усім гэтым можна было ганарыцца. Але ...

У чэрвені 1873 года прыйшло паведамленне аб тым, што Мазырская гімназія пераўтвараецца ў чатырохкласную прагімназію.

Канчатковае рашэнне аб лёсе адзінай на Палессі сярэдняй навучальнай установы было па прапанове Міністэрства народнай асветы падтрымана Дзяржаўным саветам Расійскай імперыі і атрымала "высочайшее утверждение".

На самым высокім узроўні, як бачым, вырашалася пытанне.

Прагімназіі скарацілі асігнаванні, скарацілі штаты. Вучням 5 — 8 класаў дазволілі перавесціся ў іншыя гімназіі.Праз два гады прагімназію зрабілі шасцігадовай, але поўнай сярэдный адукацыі і магчымасці паступіць у вышэйшую навучальную установу яна не давала. Да 1909 г. усе звароты і прашэнні аб аднаўленні гімназіі вынікаў не давалі.

У 1909 г. Мазырская прагімназія зноў стала гімназіяй і праіснавала да 1918 года.

## НАСТАЎНІКІ

З адкрыццём гімназіі ў горадзе паявілася незвычайная група інтэлігенцыі — гімназічныя настаўнікі, людзі прыезджыя, як правіла, з універсітэцкай адукацый.

Як адчувалі яны сябе ў маленькім захалусным горадзе, як жылі, працавалі, якім быў іх уплыў на гарадское жыццё? Першым прыбыў у горад прызначаны выконваючым абавязкі дырэктара гімназіі Карл Феліцыянавіч Вронскі, былы штатны сматрыцель Слонімскага дваранскага вучылішча. Ён меў чын падворнага саветніка — сёмы ранг у табелі аб рангах. Чын не вельмі высокі, бо і ранейшая пасада была невялікай, але ў Мазыры людзей з такім чынам амаль не было. З ім прыехалі інспектар, выкладчык матэматыкі М.А.Мудроў і настаўнік нямецкай мовы К.І.Тулевіч. Хутка прыбылі і астатнія настаўнікі.

За сваю працу настаўнікі атрымлівалі "жалаванне" і не малое.

У 1859 годзе дырэктар гімназіі атрымліваў 800 рублёў у год, старшыя настаўнікі — па 600 руб, малодшыя — 550 рублёў.

Даплата за выкананне абавязкаў інспектара — 180 рублёў. Настаўніку чыстапісання і малявання — 400 рублёў.

Калі прыняць ва ўвагу, што фунт масла ў гэты час каштаваў 3—4 капейкі, а квадратны сажань дроў — 3 рублі, то жыць можна было нядрэнна. Але настаўнікі так не лічылі. У 1862 г. педрада унесла прапанову аб павялічэнні жалавання настаўнікам "прапарцыянальна колькасці гадоў службы".

Падкрэслівалася, што недахоп матэрыяльных сродкаў прыгнятае выкладчыка, асабліва калі ён бачыць, што многія з яго таварышаў, якія не маюць вышэйшай адукацыі і выбралі іншы шлях у жыцці, "хутка падымаюцца па службовай лесвіцы, забяспечаны матэрыяльна і маюць больш высокае становішча ў грамадстве". Знаёмая песня! Ці не сёння гэта напісана? Не, Больш 130 гадоў назад.

Прапаноўвалася, каб пасля пяці год працы жалаванне за 12(!) урокаў у тыдзень складала 750 рублёў у год, пасля 10 год — 900, праз 20 год — 1200, пасля 25 — 1350. І па 70 руб. за кожны дадатковы ўрок. І гэтыя пажаданні паступова выконваліся!

І ўсё ж ніхто з настаўнікаў не здолеў купіць сабе дом, сядзібу. Усе, акрамя дырэктара, жылі на прыватных кватэрах, за якія плаціла гімназія. На становішча і настрой настаўнікаў вялікае ўздзеянне аказвалі такія фактары, як даволі своеабачлівыя норавы маленькага горада, адсутнасць кніжнага гандлю і немагчымасць сачыць за навінкамі літаратуры, аддаленасць ад вялікіх гарадоў і культурных цэнтраў.

Вось чаму многія, асабліва маладыя, разглядалі назначэнне ў Мазыр як пераходную ступень ў сваёй педагагічнай дзейнасці. Пры першай магчымасці яны пакідалі горад, а гімназія надоўга заставалася без таго ці іншага выкладчыка.

Адсюль і вялікая цякучасць педагагічных кадраў. Менш чым за 14 год існавання гімназіі (1859 — 1873) у ёй змянілася шэсць дырэктараў, прычым, толькі Міхаіл Макаравіч Ізюмаў узначальваў гімназію каля сямі год, а некаторыя дырэктары працавалі менш года. У прагімназіі (1874—1909) змянілася 12 дырэктараў. Часта мяняліся настаўнікі рускай мовы і славеснасці, старажытных і замежных моў, матэматыкі, гісторыі.

Пасля пертварэння гімназіі ў прагімназію якасны склад педкалектыву пагоршыўся, некаторыя высокаадукаваныя настаўнікі пакінулі горад.

І ўсё ж большасць настаўнікаў была добра падрыхтавана, працавала сумленна.

Сацыяльны статус настаўніка быў даволі высокі: многія мелі адпаведныя чыны. У горадзе настаўнікі гімназіі карысталіся вялікай павагай ва ўлад і насельніцтва, усе разумелі, што гімназія — вялікае дасягненне горада, а яе настаўнікі ўносяць важкі ўклад у інтэлектуальнае жыццё гараджан, што без гімназіі цяпер горад цяжка і ўявіць.

Ясна, што параўнанне сённяшняга становішча настаўніка са становішчам у тыя часы некарэктна. І час сёння зусім іншы, і прафесія настаўніка стала масавай (сёння іх у горадзе больш за тысячу).

І такой ролі, як у тыя часы, ні школы, ні гімназіі ў жыцці горада не іграюць. Але зусім зразумела натуральнае жаданне настаўніцтва павысіць свой сацыяльны статус, палепшыць сваё матэрыяльнае становішча (памятаеце мінулагоднюю падрыхтоўку да забастоўкі?). Не выпадкова на пытанне, што было б узяць на ўзбраенне з вопыту мазырскай гімназіі і прагімназіі, некаторыя настаўнікі і жартам і усур'ёз адказваюць: зарплату.

І сапраўды, хто ў тыя часы ды яшчэ і некалькі год назад мог бы ўявіць настаўніка, які на базары вымушаны гандляваць нейкай дробяззю побач са сваімі вучнямі, ці гандляваць чым-небудзь у расейскай глыбінцы. Язык не паварочваецца асудзіць за гэта маладзейшых калег, якія хочуць нейкага больш-менш прыстойнага жыцця. Сёння наша збяднелая дзяржава імкнецца нешта зрабіць для настаўніка, але ёй вельмі цяжка.

Гучыць банальна, ды яшчэ не ўсе разумеюць, што гаротны стан асветы б'е па будучыні краіны.

Але мы, здаецца, адхіліся ад тэмы.

## ГІМНАЗІСТЫ

На першым годзе існавання гімназія налічвае ў сваім складзе 64 вучні I—III класаў. У наступным годзе іх стала 143, а пасля адкрыцця 7 класа — 176. Для таго часу гэта было нямала. У 1873 годзе — апошнім для гімназіі, у ёй вучылася 227 гімназістаў.

Пасля пераўтварэння ў прагімназію колькасць вучняў пачала скарачацца — спачатку да 196 чалавек, а ў апошнім годзе перад аднаўленнем гімназіі вучылася 168 вучняў (1909 г.).

Адной з прычын скарачэння колькасці вучняў у прагімназіі, акрамя закрыцця 7-га класа і пераводу шэрагу вучняў у іншыя гарады, было ўвядзенне больш суровых патрабаванняў на прыёмных экзаменах.

У 1873 годзе з 30 паступаўшых у прагімназію хлопчыкаў было прынята толькі 12. Яшчэ адна прычына скарачэння колькасці вучняў — увядзенне абмежаванняў, працэнтнай нормы для яўрэйскага насельніцтва.

Уліку па нацыянальным складзе вучняў у той час не вялі, але быў вельмі дакладны ўлік па веравыяўленні. Напомнім, што ўсіх католікаў лічылі палякамі, а праваслаўных — рускімі, хаця сярод і тых і другіх большасцю былі беларусы.

Першыя пяць год у гімназіі большасць вучняў была рымска-каталіцкай веры, але пасля паўстання 1863 пачала хутка па вялічваецца колькасць праваслаўных. З 1865 года павялічваецца колькасць вучняў-яўрэяў з купецкага асяроддзя.

Да 1864 года ў гімназію прымалі выключна асоб шляхецкага паходжання, з 1864 пачалі прымаць дзяцей праваслаўных святароў — выпускнікоў духоўных вучылішчаў пра ўмове, што яны здадуць экзамен па замежнай мове, якая ў духоўных вучылішчах не вывучалася.

З 1864 года прымаліся спецыяльныя захады да прыцягнення ў гімназію дзяцей з праваслаўных сем'яў, а таксама яўрэйскіх дзяцей. Некаторым нават назначылі стыпендыі. Спачатку бацькі-яўрэі не жадалі аддаваць дзяцей у гімназію па рэлігійных матывах, але потым жадаючых станавілася ўсё больш. І дзяржава ўстанавіла вядомыя абмежаванні ў іх прыёме.

Да 1865 года звыш 90працэнтаў гімназістаў былі дзецьмі дваран і чыноўнікаў, потым пачала ўзрастаць колькасць дзяцей з сем'яў духавенства, купцоў. Колькасць сялянскіх дзяцей складала ад 2 да 10 працэнтаў.

Значная частка вучняў, якія прыехалі з іншых месц, жылі на "гімназічных кватэрах", якія наймала ў гаспадароў гімназія, але плацілі бацькі. У кантрактах, напрыклад, бацькі абавязваліся "плаціць 55 рублёў і звыш таго даваць 10 фунтаў мыла, 2 талеркі..."

Гаспадары павінны былі забяспечыць вучням трохразовае харчаванне. На такіх кватэрах было па некалькі вучняў. Вучнёўскія кватэры знаходзіліся пад пільным наглядам, у кватэрным журнале адзначаўся час выхаду з кватэры і вяртання вучняў. Пасля пераўтварэння гімназіі ў прагімназію колькасць такіх кватэр паступова скарацілася з 11 да 3-х.

(Працяг на 6-й стар.)

НОВЫЯ КНІГІ ПРА БЕЛАРУСЬ

# ПЕРАДАДЗЕНА АД ПРОДКАЎ

### ЦІ ШАНУЕМ МЫ НАЙКАШТОЎНЕЙШЫЯ МОЎНЫЯ І ГІСТАРЫЧНЫЯ ПОМНІКІ РОДНАЙ ЗЯМЛІ?

**Лыч Л.М. Назвы зямлі беларускай. — Мн.: Універсітэцкае, 1994. — 128 с. — (Універсітэт — школе).**

Чытачу зацікаўленаму, з катэгорыі тых, хто абудзіўся ад усебеларускай гісторыка-нацыянальнай спячкі, добра знаёмае імя Леаніда Лыча. Яго шматлікія выступленні ў абарону дзяржаўнасці беларускай мовы кранаюць эмацыянальным запалам, прыцягваюць грунтоўнасцю, глыбінёю, з якімі вучоны і публіцыст распрацоўвае галоўную, відаць, на сённяшні дзень тэму сваіх даследаванняў.

Новая кніга Леаніда Лыча — "Назвы зямлі беларускай". Змест яе ў некаторай ступені патлумачвае аўтар ужо на пачатку прадмовы: "У аснове нашай вечна юнай любві да радзімы, незалежна ад таго, пішам яе з вялікай ці з малой літары, ляжаць многія фактары. І сярод іх, несумненна, найважнейшае месца займае наша прыхільнасць да засвоеных ад самага дзяцінства слоў, якімі называюцца нашы вёскі і гарады, вуліцы і плошчы, паркі і скверы, размешчаныя паблізу месца жыхарства рэкі і азёры, палі і лугі. Такія назвы ў навуковай літаратуры прынята перадаваць запазычаным з грэчаскай мовы словам тапонім, у якім topos перакладаецца як месца, мясцовасць, а onoma — імя. У дачыненні толькі да назваў населеных пунктаў, чаму якраз і прысвечана гэта кніга, ужываецца тэрмін з больш вузкім значэннем — айканімія".

І хаця размоў, выступленняў адносна важнасці, значнасці ролі тапаніміі ў духоўным фарміраванні асобы з году ў год значна большае, спецыяльных даследаванняў, падручнікаў, манаграфій яўна нестае. Хто з вучоных стала займаецца тапанімічнымі праблемамі? Адразу на памяць прыходзяць хіба што два прозвішчы (абодва яны згадваюцца, заўважым, неаднойчы, у кнізе Л.М.Лыча) — В.П.Лемцюгова і А.Ф.Рогалеў. "Беларускую айканімію" В.П.Лемцюговай, выдадзеную яшчэ ў 1970 годзе, можна па праву лічыць настольнай кнігай кожнага сур'ёзнага шукальніка тапанімічных разгадак. Многія газетныя публікацыі выкладчыка Гомельскага універсітэта А.Ф.Рогалева, а таксама яго кнігі, выдадзеныя ў Гомелі, — сур'ёзны падмурак у справе тапанімічнай адукацыі краязнаўцаў усіх старонак Беларусі. Дарэчы, вось і першае шкадаванне, што спаткала ўжо пасля беглага прагляду кнігі. Раз-пораз, апелююючы да довадаў, высноў В.Лемцюговай, А.Рогалева, а таксама — В.Жучкевіча, аўтар "Назваў зямлі беларускай" не падае на завяршэнне кнігі спісу літаратуры ці бібліяграфіі па пытаннях беларускай тапаніміі.

Змест кнігі Л.М.Лыча як быццам вызначае навуковы ці навукова-папулярны характар. Пяць раздзелаў носяць наступныя назвы: "Мова зямлі — памятка гісторыі", "Тапанімія як увасабленне жыцця і быту народа", "Міжэтнічныя працэсы ў люстэрку тапаніміі", "Страты і шляхі адраджэння нацыянальнай тапаніміі", "Дарагі набытак гісторыі і культуры". Ды прачытанне "Назваў..." мяняе першапачатковы пункт гледжання. Кніга Л.М.Лыча — праца з выразным гісторыка-публіцыстычным стрыжнем. Аўтар даследуе стаўленне людзей да назваў сваёй мясцовасці. Імкнецца паказаць нашу ўсебеларускую тапанімічную занядбанасць. На вялікі жаль, адметнасць, заўважаная даследчыкам, адносіцца да ўсяго, пэўна, свету, але толькі не да Беларусі: "Неабмежаваная, шчырая любасць людзей да сваёй мясцовай тапаніміі з'яўляецца адной з прычын, што ў цывілізаваных краінах яе альбо зусім не перайначваюць, а калі і ідуць не такі крок, дык выключна ў рэдкіх, адзінкавых выпадках. Гэта няцяжка вытлумачыць, бо кожны сумленны чалавек глядзіць на перададзеныя яму ў спадчыну ад далёкіх і блізкіх продкаў тапонімы як на найкаштоўнейшыя моўныя і гістарычныя помнікі роднай зямлі, якія патрэбна шанаваць як штосьці самае дарагое ў жыцці". Так павінна было б быць і на Беларусі. Ды варта зірнуць толькі на звычайную карту нашай дзяржавы, як безліч кастрычніцка-шчаслівых, сацыялістычных, камуністычна-урачыстых назваў гарадоў і вёсак засведчыць адваротнае.

Прасачыўшы ў першых трох раздзелах кнігі шляхі фарміравання тапанамічнай палітры Беларусі, Л.М.Лыч надалей паказвае тое разбурэнне, што, дзякуючы лагоднасці і памяркоўнасці беларускага народа, прынёс у свет родных назваў чыноўніцка-бюракратычны партыйна-савецкі апарат усіх ўзроўняў. І тут нельга не згадаць словы вучонага Г.А.Цыхуна, што ўзяты аўтарам кнігі за эпіграф да чацвёртага раздзела "Страты і шляхі адраджэння нацыянальнай тапаніміі": "Разбурэнне тапанімічнага ландшафту рэспублікі, які сфарміраваўся на працягу многіх стагоддзяў, вядзе да страты гістарычнай памяці, дэфармацыі ў духоўнай і маральнай сферы народа, адчужэння чалавека ад яго звычайнага асяроддзя пражывання". І паказальны, відаць, у пацвярджэнне гэтых слоў, роспавяд Л.М.Лыча пра вяртанне назвы яго роднай вёсцы. У жніўні 1979 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР вёска Магільнае Уздзенскага раёна была перайменавана ў Нёман. І гэты акт вандалізму быў учынены ў адносінах да населенага пункта, які ўпамінаецца ў летапісах, навуковай літаратуры з нагоды меўшай тут месца ў XIII ст. бітвы беларуска-літоўскіх войскаў з татара-мангольскімі заваёўнікамі. Л.М.Лыч падкрэслівае, што ў пісьмовых крыніцах не засведчана, каб стэпавыя качэўнікі яшчэ хоць раз асмеліліся ўчыніць набег на землі Верхняга Панямоння. Дык вось, амаль 12 (!) гадоў барацьбы, сапраўднай барацьбы з каманднa-адміністратыўнай сістэмай спатрэбілася для вяртання Магільнаму яго першароднай назвы.

Многія старонкі кнігі "Назвы зямлі беларускай" — важкія, грунтоўныя рэкамендацыі краязнаўцам, аматарам гісторыі ў адраджэнні і зберажэнні тапанімічнай скарбонкі нашай дзяржавы.

На завяршэнне кароткай размовы пра кнігу Л.М.Лыча варта заўважыць і такую дэталь. "Назвы зямлі беларускай" выдадзены накладам дваццаць пяць тысяч асобнікаў. І гэта радуе, дае падставы паверыць, што тапанімічная справа на Беларусі стане прадметам усенароднай і дзяржаўнай зацікаўленасці.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# І НАМ ЗАЙЗДРОСЦЯЦЬ

### РЭСУРСНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ БЕЛАРУСІ НЕ ТАКІЯ БЕДНЫЯ, ЯК ПРЫНЯТА ЛІЧЫЦЬ ЗДАЎНА

Прырода Беларусі... Мяккая, шчырая, лірычная — яна прываблівае паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў. Яе загадкавасць і нават тамнічасць прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Але руплівага гаспадара яна цікавіць і магчымасцямі практычнага выкарыстання. У час, калі наша краіна, хай і вельмі марудна, але крочыць па шляху самастойнасці, вельмі актуальнымі з'яўляюцца пытанні: ці бедныя мы, ці здольныя забяспечыць сябе ўнутранымі рэсурсамі? Трэба зазначыць, што ніводная краіна свету не жыве толькі за кошт уласных магчымасцяў. Усе завозяць тую ці іншую сыравіну, што не перашкаджае нармальнаму эканамічнаму развіццю. Вельмі часта лепш жывуць не тыя краіны, што багацейшыя на карысныя выкапні, а тыя, што па-гаспадарску распараджаюцца ўсім, што маюць. Прыкладам могуць служыць Швейцарыя, Японія і інш. Але для нас, жыхароў Беларусі, ступень забяспечанасці дзяржавы прыроднымі рэсурсамі застаецца хвалюючым пытаннем. Рэкамендацыйны бібліяграфічны паказальнік "Прыродныя багацці Беларусі", змешчаны ў №8 за гэты год у бюлетэні "Новыя кнігі Беларусі", ставіць мэтай дапамагчы чытачам знайсці на яго адказ. У паказальніку сабраны кнігі, энцыклапедыі пра ўсю разнастайнасць беларускай прыроды, пра лясы і раслінны свет і іх выкарыстанне ў народнай гаспадарцы. Бо лясы — гэта не толькі драўніна і прадукты яе перапрацоўкі. Гэта і плады, ягады, грыбы, меданосныя расліны, якія могуць быць сапраўднай прыроднай аптэкай. Але згаданыя кнігі выклікаюць не толькі захапленне сапраўднай скарбніцай, назва якой "лес", а і сум ад усведамлення, што значная частка нашага ляснога багацця страчана ў выніку чарнобыльскай катастрофы.

Вельмі цікавымі для чытачоў будуць артыкул пра глебы Беларусі, якія раней лічыліся неўрадлівымі. Але Т.Раманава прапануе зусім іншы погляд. І лекцыя дзеяча БНР М.Абрамчыка, прачытаная ў 1947 г. для беларускіх студэнтаў у Лондане, пацвярджае гэта. У ёй разглядаюцца крыніцы даходаў для Беларусі: сельская гаспадарка, рэкі, азёры, рыбалоўства, лес, балоты, карысныя выкапні, мінеральныя воды, турызм.

У асобным раздзеле паказальніка сабраны кнігі, артыкулы вядучых геолагаў нашай краіны, якія выказваюцца наконт нетраў Беларусі. Традыцыйна Беларусь лічылася і лічыцца вельмі беднай. На жаль, гэта думка падтрымліваецца нават нашымі дзяржаўнымі дзеячамі. Але зусім іншы погляд чытачы сустрэнуць у працах спецыялістаў. Яны даводзяць, што па еўрапейскіх нормах у геалагічных адносінах мы багатая краіна. Шмат дзяржаў зайздросцяць нам. Іншая справа, што ў нас не развіта горная прамысловасць, больш таго, яна ў зародкавым стане. І ў гэтым наша бяда. Аўтары артыкулаў паказваюць усё багацце нашых нетраў, расказваюць пра запасы калійных соляў, нафты, сланцаў, вугалю, даўсаніту, мінеральных вод, вадкіх руд і іншых карысных выкапняў. Чытачы даведаюцца пра пошукі і значэнне знаходак бурштыну, золата, пра значэнне, якое маюць для прамысловасці наш граніт, крэмень, сапрапелі, торф, мел, нават вада.

Спадзяёмся, што педагогі знойдуць у паказальніку шмат цікавага матэрыялу, які будзе выкарыстаны для азнаямлення вучняў з навакольным светам, для пераадолення ў маладога пакалення стэрэатыпу ўспрыняцця Беларусі як беднай на прыродныя рэсурсы краіны.

Таццяна МАЦВЕЕВА,
супрацоўніца
навукова-бібліяграфічнага
аддзела Нацыянальнай
бібліятэкі Беларусі.

(Працяг.
Пачатак на 3-й стар.)

пасяджэнні па справе Я. Лёсіка, абвінавачваемага па 1 і 2 п. 129 артыкула Угалоўнага Улажэння, прынятае 18 лютага 1908 года.

Копія прысуду, што знойдзена ў Іркуцкіх архівах Алесем Жыткіным і Юрасем Гарбінскім, адзіны дакумент у гэтай справе, бо самой справы не захавалася. Таму мы прыводзім яе поўнасцю.

"Решением Особого Присутствия Киевской Судебной Палаты крестьянин Минского уезда, Новосверженской волости, села Никольского Иосиф Георгиев Лосик, 21 год, признан виновным в том, что в декабре месяце 1905 г. в местечке Гремяч, Новгород-Северского уезда, на одном из устраиваемых им, как народным учителем, воскресных чтений, публично произносил речи, возбуждающие к учению бунтовщического деяния к ниспровержению существующего в государстве общественного строя, утверждал, что следует, чтобы в России была республика, и тогда всё будет хорошо и все будут равны, что пусть весной крестьяне возьмут колья в руки и начнут пахать помещичьи земли, если же придут казаки, то их нужно бить дубинами, а затем прочитал присутствующим составленный им от имени сельского общества приговор о созыве учредительного собрания, наделении землёй лишь тех, кто в состоянии обрабатывать её собственным трудом, учреждения земских начальников и полиции и назначения по выборам всех должностных и в том, что 19 декабря 1905 года там же в местечке Гремяч, в целях распространения суждений, возбуждающих к ниспровержению существующего в государстве общественного строя, публично на сельском сходе прочитал упомянутый выше приговор от имени сельского общества.

... Особое присутствие судебной Палаты определяет: на основании 1 и 2 п. 1 ч. 129, 27 и 62 ст. Уголов. Улож. крестьянина села Николаевского, Минского уезда Иосифа Георгиева Лосика, 21 года, сослать на поселение в местности, для того предназначенные, с праволишением и последствиями, указанными в 23, 25, 28—31, 34 и 35 ст. Уголовного Уложения."

Дзе ў арыштанцкіх вагонах, на баржах або пешкі дабіралася амаль месяц партыя ссыльнапасяленцаў да месца новага жыхарства ў вёскі Кірэнскага павета Іркуцкай губерні. Вось як апісвае жыццё пасялен Язэп Лёсік у лісце да газеты "Наша Ніва".

"Каля гораду Кірэнска прытулілася амаль не сотня палітычных ссыльных. Шукаючы работы, зышліся яны сюды з усіх куткоў Кірэнскага павету, ды і пасяліліся ў ваколіцах, у вёсках, бо ў горадзе жыць забараняецца. Невялікі гэты горад, але мае дзве прыстані, ды кожны спадзяваўся пабольш зарабіць на кавалак хлеба.

І сапраўды, таму, хто ведаў якое майстэрства, пашанцавала знайсці заработак, але гэткіх надта мала, рэшта, паабіваўшы парогі, стрэлася твар з тварам з магутным голадам. Калі дзе трапіцца, ідуць за хлеб у парабкі, згаджаюцца на ўсякую работу, абы не памерці з голаду. Ёсць многа гэтакіх, што не маюць у ва што абуцца, ані апрануцца. На двары сібірская сцюжа, а тут не дзіва спаткаць на вуліцы "палітыка" ў адным кулёчку. Тутэйшы народ ніколі не бачыў гэтакага здарэння і вельмі дзівіцца, што які трывалы расейскі чалавек"...

... І гібеюць людзі бясконца, гінуць марна, як мухі ўвосень. Той занядужае ад холаду і голаду ды памрэ, а той не вытрывае ды сам сябе звядзе са свету.

... Боязна зірнуць у вочы заўтраму, бо яно, як ваўкалак, стаіць, выскаліўшы зубы...

Да гэтага яшчэ прылучаецца нуда па роднай старане. Сэрца заходзіцца ад жалю, калі можа ніколі не давядзецца хадзіць па родных сцежках, ніколі не пачуць тых мілых песень, якія сам спяваў з маленства...."

З чым можна параўнаць любоў пакутніка Язэпа Лёсіка да радзімы, да свайго народа, блізкіх і знаёмых?

Ні з чым! Хіба толькі з паланезам Агінскага. Калі творца апынаецца ў выгнанні, ды яшчэ ў такім рангу, крык і боль душы павялічваюцца ў тысячы разоў!

Кепска жылося Язэпу Лёсіку ў Сібіры, ад недаядання і пераахалоды набыў ён хваробу лёгкіх і страўніка. Язэп Юр'евіч у Сібіры займаўся самаадукацыяй, не парываў сувязі з Беларуссю. Жыццё крышку палепшылася, калі Язэпа Юр'евіча перавялі ў бяззямельнае сялянства Мартынаўскай вобласці 1 чэрвеня 1914 года.

У Сібіры ў выселку Мельнічным група беларусаў жыла дружна, выпісвалі беларускія газеты і кнігі, дзяліліся заробкам, дапамагалі адзін аднаму як маглі. Нават ладзілі вечарыны. Аб адной з іх (канец 1912 года) Язэп Лёсік дае інфармацыю ў "Нашу Ніву". Гэта заметка — пачатак літаратурна-публіцыстычнай дзейнасці чарадзея слова Язэпа Юр'евіча.

У сакавіку 1917 года Язэп Лёсік вяртаецца на Радзіму. Пачынаецца новая багатая, гераічная і не менш трагічная старонка ягонага жыцця.

Па прыездзе ў Мінск Язэп Лёсік цалкам займаецца палітычнай справай. Ён уступіў у рады Беларускай сацыялістычнай грамады. Як вядома, БСГ (нацыянальная партыя) ўзнікла ў 1902 годзе. Каля вытокаў яе стаялі браты Луцэвічы, Карусь Каганец, Іваноўскі, Ластоўскі, Цётка ды іншыя беларускія свяцілы.

У 1917 годзе БСГ налічвала ўжо 5 тысяч сяброў партыі. Новымі лідэрамі яе становяцца В.Адамовіч, П.Бадунова, Цішка Гартны, І. Варонка, Алесь Гарун, А.Смоліч, Б.Тарашкевіч і іншыя. У праграме партыі на першае месца вылучаліся наступныя задачы: знішчэнне самадзяржаўя, устанаўленне федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі са свабодным вызначэннем народаў, абласная аўтаномія для Беларусі з сеймам, утварэнне абласных зямельных фондаў з казённых, удзельных, прыватнаўласніцкіх, царкоўных і манастырскіх земляў. Выбарнасць чыноўнікаў, прагрэсіўны падатак, ураўняльнае землекарыстанне.

У сакавіку 1917 года ў Мінску адбыўся з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый, на якім быў абраны Беларускі нацыянальны камітэт, які прад'явіў Часоваму ўраду Расіі патрабаванне аб аўтаноміі Беларусі.

28 мая 1917 года Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) пачаў выдаваць газету "Вольная Беларусь", рэдактарам якой прызначылі Язэпа Лёсіка.

Газета аб'ядноўвала вакол сябе ўсе слаі насельніцтва.

У ліпені 1917 года БНК склікала другі з'езд БСГ, на якім абралі Цэнтральную раду над усімі мясцовымі радамі.

Усебеларускі з'езд салдатаў-беларусаў патрабаваў, каб беларускія салдаты арганізаваліся ў свае нацыянальныя злучэнні і вайсковыя аб'яднанні.

Газета "Вольная Беларусь" выходзіла 2 разы на тыдзень на 8-мі старонках. Тут змяшчаліся самыя разнастайныя матэрыялы, пачынаючы з рэкламных аб'яў, паведамленняў мясцовых і цэнтральных улад і да сусветных падзей і літаратурных твораў (дарэчы, тут былі апублікаваны амаль усе літаратурныя творы Я.Лёсіка).

Але галоўным матывам газеты была нацыянальная ідэя, ідэя адраджэння беларускай дзяржавы, мовы і культуры.

У кожным нумары вышэйпамянёныя ідэі знаходзілі сваё ўвасабленне ў артыкулах Я.Лёсіка і яго паплечнікаў.

У "Вольнай Беларусі" (№ 14 ад 17 жніўня 1917 года) быў надрукаваны Статут Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый — арганізацыі сапраўднай дэмакратыі, якой бы павучыцца нашым палітычным дзеячам.

9 ліпеня аднавіў сваю дзейнасць настаўніцкі хаўрус. Сябрам гэтага хаўрусу мог быць кожны настаўнік, калі жадаў адраджэння беларускай справы і панавання роднай мовы ў школе.

У "Вольнай Беларусі" (№ 14 за 17 жніўня) надрукаваны артыкул Я.Лёсіка "Што рабіць"? Гэта была праграма першапачатковых задач у справе здзяйснення нацыянальнай ідэі: дабівацца нацыянальнай аўтаноміі, арганізаваць самакіраванне, арганізацыя нацыянальнай школы, вядзенне справаздачы на беларускай мове, рыхтавацца да Усерасійскага устаноўчага сходу.

Паступова раскрываўся механізм нацыянальнага адраджэння, у якім прымаў актыўны ўдзел Я.Лёсік.

Але грымнуў кастрычніцкі пераварот, ідэі якога не былі прыняты Язэпам Юр'евічам. Ён верным застаўся ідэям БСГ. Не прызнавалі бальшавіцкага перавароту і Цэнтральная рада ўсіх беларускіх арганізацый і партый, Цэнтральная беларуская вайсковая рада, Беларуская народная партыя сацыялістаў, якія выдалі маніфест "Грамата да беларускага народа", у якім гаварылася: "У гэтыя дні нам належыць паказаць сапраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусціць, каб віхор бязладу загубіў нашу святую нацыянальную справу абароны вольнасцей і правоў беларускага народа".

Для вырашэння нацыянальнага пытання быў склікан Усебеларускі з'езд.

З'езд быў вельмі прадстаўнічы. Тут прысутнічала 1867 дэлегатаў літаральна ад усіх палітычных плыняў і ўсіх куткоў Беларусі. З'езд павінен быў абраць Выканаўчы камітэт — законны беларускі ўрад! 17 снежня паўнамоцны дэмакратычны Беларускі з'езд быў бальшавікамі разагнаны. Па віне бальшавікоў з гэтага часу Беларусь парывае з Расіяй, якой лёс беларускага народа быў абыякавым, бо руская інтэлігенцыя лічыла наш край чыста рускім.

Пасля акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі (люты 1918 г.) быў утваран Выканаўчы камітэт, які ад імя Усебеларускага з'езда абвясціў аб стварэнні новага ўрада — нацыянальнага сакратарыята Беларусі, у якім Язэп Лёсік быў зацверджаны рэдактарам "Вольнай Беларусі". Народны сакратарыят аб'яўляе сябе вышэйшай уладай краіны да склікання Усебеларускага збору.

Народны сакратарыят даручыў генералу Кандратовічу фарміраваць беларускае войска. У вайсковай камісіі быў і Алесь Гарун. Язэп Лёсік віншаваў у сваёй газеце гэтую з'яву.

9 сакавіка 1918 года Выканаўчы камітэт звярнуўся з граматай да народаў Беларусі, дзе гаворыцца, што Беларусь абвяшчаецца народнай Рэспублікай. Уся заканадаўчая ўлада належыць Устаноўчаму сойму Беларусі, выбранаму на аснове роўнага, агульнага і прамога, патаемнага выбарчага права. Выканаўчая і адміністрацыйная ўлада ў БНР належыць народнаму сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю з'езда і перад ёю трымае адказ. Тут абвяшчаюцца ўсе дэмакратычныя свабоды, зямля аддаецца тым, хто сам на ёй працуе. Сябрам БНР становіцца і Язэп Лёсік.

18 сакавіка 1918 года Выканаўчы камітэт Беларускага з'езда арганізуецца ў Раду БНР, а 25 сакавіка прымаецца Другая Статутная Грамата, дзе сказана: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай..."

Так утварылася незалежная Беларусь, у склад кіраўнікоў якой увайшоў Я.Лёсік. 9 ліпеня 1918 года Язэп Юр'евіч становіцца прэзідэнтам Рады БНР.

У красавіку 1918 года народны сакратарыят па прапанове Я.Лёсіка прыняў пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай мовай. У гэтым жа месяцы Язэп Юр'евіч адкрыў пры штабе БНР курсы беларусазнаўства.

Пакінула Мінск БНР 10 снежня 1918 года, а зноў вярнулася пасля таго, як ён быў захоплены палякамі, 8 жніўня 1919 года.

Раду Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Лёсік узначальваў каля года.

У сярэдзіне 1919 года ён перадае партфель Пятру Крэчэўскаму, а сам стаў рэдактарам штодзённай газеты "Беларусь", дэвізам якой, як і газеты "Вольная Беларусь", было фарміраванне беларускай ідэалогіі і культуры для народа, нягледзячы на яго партыйныя погляды.

Пасля адступлення палякаў сябры ўрада БНР разляцеліся хто куды.

У 1925 годзе на Беларускай палітычнай нарадзе БНР, на якой было прынята рашэнне спыніць барацьбу супраць Савецкай улады, БССР прызнавалася адзіным цэнтрам адраджэння. БНР — распускалася.

Шмат хто з БНР вярнуўся на Радзіму, каб прыняць сваю смерць на Галгофе, іншыя засталіся за мяжою.

Язэп Лёсік цалкам адышоў ад палітычнай работы і поўнасцю пагрузіўся ў навукова-педагагічную працу. Ён прафесар мовазнаўства ў Белдзяржуніверсітэце, аўтар дзесяці кніжак па беларускай мове, сябра Інбелкульта, акадэмік АН БССР. Па яго дапаможніках вучылася цэлае пакаленне студэнтаў і вучняў, на яго лекцыі цяжка было трапіць, таму што аўдыторыі былі заўжды перапоўнены. Ён мог гаварыць і разумець маладога і старога, студэнта і прафесара. Душэўнасць і гуманізм, прастата і даступнасць — характэрныя для гэтага чалавека.

## ЭЛІКСІР ДУХОЎНАГА ЯДНАННЯ

Як вядома, Язэп Лёсік працаваў у разнастайных галінах беларускай культуры, але перавагу аддаў менавіта вывучэнню і развіццю беларускай мовы. І гэта невыпадкова. Мова, згодна Язэпу Лёсіку, ёсць магутнейшы сродак духоўнага яднання нацыі, выяўленне дзяржаўнай свядомасці народа. Мова становіць усе: нашу палітыку, эканоміку, наш грамадскі лад жыцця. Для станаўлення, удасканалення і далейшага развіцця мовы Язэп Лёсік ахвяраваў сваім мастацкім літаратурным талентам.

На працягу 20-х гадоў на беларускай мове ім выдадзены наступныя дапаможнікі: "Практычная граматыка", Мн., 1924 г., "Беларуская мова. Правапіс", Мн., 1924 г., "Граматыка беларускай мовы. Фанэтыка", Мн., 1926 г., "Граматыка беларускай мовы. Марфалогія", Мн., 1927 г., "Сінтаксіс беларускай мовы", Мн., 1926 г., "Школьная граматыка беларускай мовы", Мн., 1929 г. і інш.

Гэтыя граматыкі перавыдаваліся шмат разоў, многатысячнымі выданнямі.

Спрыялі дзейнасці Я.Лёсіка як мовазнаўцы багатая беларуская культура, ягоная працавітасць, глыбокае веданне сваёй справы, а таксама спадчына вялікіх мовазнаўцаў, як, напрыклад, Я.Ф.Карскага, капітальная трохтомная праца якога "Беларусы" лічыцца нацыянальнай энцыклапедыяй.

Што датычыцца значэння беларускай мовы ў жыцці нашага народа, то аб гэтым шмат было напісана Я.Лёсікам у газеце "Вольная Беларусь".

Язэп Лёсік адразу ж зазначае, ставячы пытанне: "Чаму ў іншых народаў адна мова ў паноў і работнікаў, а ў нашым краі дзве мовы: нібы панская і простая сялянская? Ён адказвае, што некалі, калі мы былі магутнай дзяржавай (маецца на ўвазе Полацкае княства і Вялікае княства Літоўскае), у нас таксама была адна мова, на якой размаўлялі ўсе. Калі ж мы страцілі сваю незалежнасць і апынуліся пад чужым панаваннем: спярша пад Польшчаю, а потым пад маскоўскаю ўладаю, перажылі горкую долю здзеку і нелюдзкога гвалту. Калі б не гэты гвалт і здзек, наш народ меў бы самую багатую культуру ў свеце".

"Беларускі народ, што і цяпер вызначаецца сваёю, як кажуць, патэнцыяльнаю здатнасцю да культуры, сваім розумам і далікатнасцю, — гэты народ цяпер цёмны, заштурханы, бедны. Німа яму прастору, каб выявілася яго прыродная здатнасць і здольнасць, яго зямля родзіць не яму, як не яму служаць і здабыткі сучаснай культуры, выпіваючы з яго ўласнага грунту ўсе сокі жывучыя і за гэтага амаль што нічога не вяртаючы".

Што за прычына гэтаму? У першую чаргу — геаграфічнае становішча нашага краю на тым раздарожжы, дзе пастаянна адбываліся ваенныя спрэчкі суседніх народаў. У выніку — беларускі народ страціў адпорную сілу і мусіў стаць "гноем для" іншых культур.

Усё згубіў наш беларускі народ на доўгім і цяжкім гістарычным шляху: палітычную незалежнасць і эканамічныя дастаткі, свае права і асвету, свае законы і суд, сваю школу і інтэлігенцыю ў барацьбе за сваю індывідуальную незалежнасць. Ён зрабіўся нацыяй без прозвішча.

"І толькі адзін застаўся яму, гэтаму народу-пакутніку скарб ад далёкіх продкаў. Гэта родная мова — і роднае пісьменства... Як сімвал яго асобнасці нацыянальнай і як пачатак самасвядомасці, як памятка ад прамінулага і надзея на будучыню".

Наш народ жыў хоць на роднай, але не на сваёй зямлі. На Беларусь Польшча і Масква глядзелі як на свой уласны народ і ўсімі сіламі намагаліся запэўніць усіх людзей, што Беларусі няма, а ёсць толькі Польшча і Расія. Так рабіла Польшча, калі Беларусь была пад яе ўладаю, і палякі казалі, што Беларусі няма, а ёсць толькі польскія пагранічныя землі (крэсы), дзе людзі гавораць папсаванаю маскоўскім уплывам польскаю моваю. Гэта самае казала маскоўскае самаўладства, што беларусаў няма, ёсць толькі папсаваная польскім уплывам вялікаруская гаворка.

За часы польскага панавання ўся беларуская шляхта стала польскамоўнаю. Яны адцураліся ад Беларусі і, жывучы на беларускай зямлі, стараліся загубіць і бэсціць усё беларускае. Гэтаксама робяць цяпер нашы паны, чыноўнікі і настаўнікі, якія па царскаму загаду, праз царскія школы перарабіліся расейцамі.

"Яны не толькі адракліся ад усяго роднага, беларускага, а яшчэ топчуць нагамі тое, што іх дзяды і прадзеды, як святое, шанавалі". Тыя патомкі тых самых слаўных беларусаў, якія мелі магутную дзяржаву, чыя мова горда і смела гучала па ўсім свеце і карысталася вялікаю павагаю і пашанаю — цяпер кажуць, што народ наш не хоча сваёй школы і сваёй мовы.

Дрэнна паводзілі сябе нашы паны і чыноўнікі, але яшчэ горш робяць тыя, хто выйшаў з народа ды зрабіўся падпанкам. Яны, як правіла, былі шпіёнамі і даносчыкамі. Ім хочацца, каб смяяліся і аплёўвалі ўсё тое, ад чаго яны адракліся.

"Што б казалі на тых дзяцей, каторыя пакінулі б у бядзе і няволі сваю матку, што выгадавала, вынянчыла і выпесціла іх? Што б вы сказалі на іх, каб яны абакралі яе ды сталі б яшчэ здзекавацца ды выносіць імя яе на глум і пасмешышча; закідалі яе гразёю, тыкалі пальцамі і пасмяхаліся б перад людзьмі..?"

Далей Язэп Юр'евіч гаворыць, што пачалося беларускае адраджэнне, пачатак якому паклалі пісьменнікі і паэты і шмат іншых сыноў, шчырых і верных свайму краю. Яны самі гавораць па-беларуску, пішуць кніжкі, выдаюць газеты, імкнуцца ўвесці беларускую мову ў школах і ў ва ўсіх інстытутах нашага краю. І ўсім трэба вучыцца размаўляць па-беларуску. Бо хто скажа, што ён беларус, а мовы беларускай не прызнае, той дрэнны беларус.

"Трэба нам самім паважаць сваю мову і гаварыць скрозь па-беларуску... тады і чужыя людзі стануць шанаваць яе. А то як жа яны стануць паважаць яе, калі мы самі яе не шануем?" Язэп Лёсік вылучыў і задачы адраджэння, якія мы сёння павінны ведаць і выконваць. "Асвета павінна быць беларускай, бо толькі ў сваёй хаце свая воля і праўда". На сваёй мове павінна быць і навука, мова, "яна дапаможа нам лягчэй і хутчэй пераняць навуку і асвету... родная мова — гэта душа народа, яго скарб — багацце і аздоба. Толькі праз асвету ў роднай мове мы дойдзем да лепшай долі, толькі яна выведзе нас з цемры на шлях волі, братэрства і светлага, разумнага жыцця".

"...Жыў наш народ і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе". Наша мова "служыць нам неўміручай надзеяй на будучы росквіт, а цяпер нясе народу свет свядомасці нацыянальнай, палітычнай і грамадскай"..

Такім чынам, Язэп Лёсік адшукаў тое звяно ў ланцугу жыцця нашага народа, ухапіўшыся за якое можна і трэба будаваць сёння нашу незалежную Беларусь. Гэтым звяном і з'яўляецца нашая мілагучная, напеўная і багатая беларуская мова — эліксір усяго нацыянальнага.

## "НАЦЫЯ ЗНІШЧЭННЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ"

Як мы ўжо зазначалі, нацыянальная ідэя ў светапоглядзе Я.Лёсіка з'яўляецца асноўным матывам. Яе вырашэнню ён прысвяціў усю сваю творчасць.

Асноўны лозунг яго нацыянальнай ідэі — "Без нацыянальнага вызвалення не можа быць сацыяльнага вызвалення".

І сапраўды, спасылаючыся на Камуністычны Маніфест К.Маркса і Ф.Энгельса, дзе гаворыцца, што эканамічнае развіццё сцірае нацыянальныя супярэчнасці, некаторыя даследчыкі нацыянальнага пытання робяць няправільныя вывады, што эканамічнае жыццё пры сацыялізме знішчыць нацыі і будзе ўвесь свет безнацыянальным, з адзінай інтэрнацыянальнай культурай і мовай.

"Безнацыянальная культура, якая не павінна быць ні расійскай, ні беларускай, ні польскай, а толькі чыстай культурай, ёсць бяссэнсіца. Інтэрнацыянальныя ідэі якраз могуць стаць блізкімі рабочай клясе толькі тады, калі яны дапасаваны да мовы, на якой рабочы гаворыць, і да тых канкрэтных умоў, у якіх рабочы жыве; рабочы не можа абы-як ставіцца ў справе палажэння і развіцця сваёй нацыянальнай культуры, да сусветнага рабочага руху".

"Трэба цвёрда зазначыць, што нацыя, знадворным выяўленнем якой з'яўляецца мова, культура, мастацтва і т.д., нязменна развіваецца і знішчэнню не падлягае".

Нацыя можа згінуць, адмерці, можа змяніцца, але не можа зліцца з іншай нацыяй, нават пераняўшы чужую культуру.

Робячы спасылкі на Каўцкага і Бебеля, Я.Лёсік зазначае, што існуюць нацыі падняволеныя і пануючыя, паміж якімі ідзе змаганне, якое ніколі не застановіцца, аж да поўнай перамогі.

І той, хто гэтага не разумее, павінен зразумець, і хто робіць усялякія перашкоды на гэтым шляху нацыянальнага вызвалення, павінен ведаць, што ён рабаўнік, гвалтаўнік прагрэсу, замінае эканамічнаму, палітычнаму і інтэлектуальнаму развіццю. Нацыянальная незалежнасць немагчыма без дзяржаўнай незалежнасці. Дзяржаўная незалежнасць дае магчымасць развіццю нацыянальнай і агульначалавечай культуры. Не касмапаліты, а пэўныя народы з'яўляюцца творцамі культуры.

У барацьбе прыгнечанай нацыі з нацыяй пануючай усё насельніцтва першай выступае адзіным фронтам, бо пануючая нацыя аднолькава грабіць людзей падпарадкаванай нацыі, як пануючы, так і рабочы люд.

Беларусь пры Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі была калоніяй. Пры далучэнні Беларусі да Расіі пануючы клас і інтэлігенцыя былі спаланізаваны. Беларускі народ застаўся верны сваёй нацыянальнай справе, але ён быў цёмны і забіты народ. Задача царскага ўрада заключалася ў тым, каб абмаскаліць беларускі край, дзеля чаго сюды ён кінуў сваіх чыноўнікаў, паноў, настаўнікаў і армію, якія і пачалі сваю брудную справу. Але царызм добра ведаў, што гэтых сіл недастаткова для русіфікацыі краю. Ён рыхтуе русафільскую інтэлігенцыю, забараняе беларускую мову, выданне на ёй кніг. Пабудаваныя царызмам школы-казёнкі атручвалі розум дзецям, калечылі інтэлектуальна іх і стваралі фанатычных абрусіцеляў. Народ стагнаў, народ плакаў, але яму ніхто не мог дапамагчы. А хто дапаможа, калі ўласная нацыянальная інтэлігенцыя амаль поўнасцю здрадзіла яму.

Беларуская ідэя і адраджэнне ўзнікаюць яшчэ ў 20-я гады XIX стагоддзя пры Віленскім універсітэце. Але гэта была толькі ідэя, і не больш.

Новая хваля адраджэння з'яўляецца ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў народніцкім руху і ў так званы "нашаніўскі перыяд", які аформіўся з утварэннем Беларускай Сацыялістычнай Грамады (1902г.) У сваёй нацыянальнай ідэі БСГ ставіла пытанне нацыянальнай аўтаноміі ў рамках Расійскай імперыі. З гэтымі патрабаваннямі БСГ сустрэла Лютаўскую (1917 года) рэвалюцыю.

Наша інтэлігенцыя думала, што ў нацыянальным уціску вінавата адно самаўладства, а расейская інтэлігенцыя тут не прычынна. Здавалася, што трэба скінуць рускі царызм, і руская інтэлігенцыя прыйдзе да нас на дапамогу. Але гэта толькі мара..."Маскоўская інтэлігенцыя сцвярджае, што Беларусь — гэта вотчына, тая ж самая Яраслаўская губерня, толькі з асобаю назваю".

Пасля разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езда стала ўсім зразумела, што і савецкі ўрад не лічыцца з нацыянальным адраджэннем і беларускай ідэяй.

"...Мы не спяшаліся аддзяліцца ад нашай суседкі Расіі, але петраградскія дарадчыкі не далі нам магчымасці ўладзіць свой лёс на федэратыўных ці аўтаномных пачатках і кінулі нашу Радзіму на міласць лёсу".

З гэтай пары беларусы зразумелі, што іх лёс у іх уласных руках.

Такім чынам, мы, беларусы, маем права на самавызначэнне і незалежнасць. Мы маем свой уласны лад жыцця, сваю мову, культуру, сваю гісторыю, свае этнаграфічныя межы, а ўсё гэта — атрыбуты незалежнай нацыянальнай ідэі.

І цяпер, калі мы дабіліся нацыянальнай незалежнасці, для нашага адраджэння ідэі Я.Лёсіка з'яўляюцца вызначальным напрамкам.

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ І КАТЭХІЗІС

Галоўная задача Язэпа Лёсіка як асветніка заключалася ў прывіцці нацыянальнай ідэі, фарміраванні незалежнасці, самасвядомасці, дасягнуць чаго ў першую чаргу можна было праз сваю беларускую школу і настаўніцтва, праз родную мову, культуру і гісторыю.

Як зазначае Язэп Юр'евіч, беларусы павінны імкнуцца, каб дзеці іх вучыліся ў беларускай школе. Чужая школа навучала беларускіх дзяцей любіць чужое і зневажаць сваё роднае і свой народ, сваю мову і звычаі. Чужая школа гадавала з нашых дзяцей чужых для нашага народа. Каб выправіць гэтае становішча, патрэбна, каб ва ўсіх школах, дзе жывуць беларусы, выкладанне вялося на роднай мове. Таму што школа (разам з сям'ёю) — гэта фундамент нацыі, гэта яе будучыня. У сям'і, як і ў школе, патрэбна размаўляць па-беларуску. Усе хатнія рэчы і адзенне неабходна падтасоўваць пад нацыянальныя густы нашага народа, каб у хаце, школе і іншых грамадскіх месцах адчуваўся беларускі дух. Патрэбна, каб усюды ў грамадскім жыцці беларус выступаў з гонарам і павагай да ўсяго свайго. Беларус павінен меркаваць аб усім, зыходзячы з патрэб і карысці беларускага народа.

Кожны жыхар Беларусі павінен быць патрыётам — гэта значыць шчыра любіць сваю Радзіму і свой народ. Наш настаўнік павінен быць у першую чаргу патрыётам, а патрыёт — гэта той чалавек, які стараецца дапамагчы свайму народу, працуе ў гэтым кірунку з усіх сіл!

Мы станем свабоднымі і шчаслівымі, калі ўсе беларусы будуць свядомымі сынамі свайго народа. Вось чаму галоўная задача настаўніцтва — фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці, а свядомымі мы будзем толькі тады, калі сам беларус будзе гаспадаром свае ўласнае зямлі.

Каб быць патрыётам сваёй Бацькаўшыны, недастаткова яе толькі любіць і працаваць для яе дабра, але трэба яшчэ навучыць і прыхіліць да гэтага ўсіх беларусаў, будзіць у іх гэтыя высокія, добрыя пачуцці.

Святая павіннасць кожнага настаўніка — дбаць аб гонары сваёй нацыі, старацца, каб слова "Беларусь" заўсёды, ва ўсіх народаў сустракалася з пашанай.

Наш беларускі настаўнік павінен прывіваць пашану да свайго краю, яго мовы і народнай творчасці, спакойнага і разважнага характару беларуса, да яго гісторыі і культуры.

Адным словам, мы ганарымся, гордыя, што мы беларусы. Такім чынам, уся грамадская палітычная і культурная дзейнасць Я.Лёсіка была накіравана на карысць свайго народа, на карысць маці-Беларусі. Яго дзейнасць і спадчына з'яўляюцца энцыклапедыяй і катэхізісам па ўсіх пытаннях сённяшняга дня.

***

... У гэты небывалы росквіт усяго беларускага передавыя людзі адчулі, што пачынаецца дзейнасць чорных сіл. Усё часцей і часцей гучыць тэрмін "нацдэмы". На хвалі ўсяго нацыянальнага нацыяналістамі аб'яўляліся ўсе людзі, якія імкнуліся аднавіць хоць якія асаблівасці беларускае культуры.

З'яўляецца і другі ярлык — "вораг народа".

Ганенне на Язэпа Лёсіка пачалося яшчэ ў 1921 годзе, адразу ж пасля выхаду ў свет ягонай кніжкі "Практычная граматыка беларускай мовы". "Звязда" назвала падручнік контррэвалюцыйным. З гэтага часу і пачалося... Праверкі, прыдзіркі, надзоры, падслухоўванне, падглядванне, нават і арышты, але дзякуючы ўмяшанню грамадскасці і прэзідэнта АН БССР У.Іваноўскага Лёсіка адпусцілі.

Новым этапам у ганенні Я.Лёсіка з'явілася акадэмічная канферэнцыя беларусаў па рэформе беларускага правапісу, якая адбылася ў лістападзе 1926 года. Канферэнцыя паказала, што ў аснове роднай мовы ляжыць багатая і слаўная традыцыя, фарміраванне яе як роўнай сярод роўных. У аснове большасці дакументаў канферэнцыі ляжалі навуковыя працы і погляды Я.Лёсіка, з якімі пагаджаліся ўсе прысутныя на ёй.

Гэта і не спадабалася Маскве і партыйным кіраўнікам Беларусі, якія разам паўсталі на барацьбу з "беларускім нацыяналізмам". Пачаліся масавыя арышты і фізічнае знішчэнне беларускай інтэлігенцыі. У ліку першых быў Язэп Лёсік. Ён быў арыштаваны ў ліпені 1930 года і на пяць гадоў высланы ў Саратаўскую губерню, дзе працаваў настаўнікам рускай мовы ў Камышыне, а затым у Нікалаеўску.

У 1936 годзе тэрмін ссылкі закончыўся. Язэп Лёсік імкнуўся вярнуцца на радзіму, але яму ў гэтым адмовілі. Пасля чарговага бадзяння ў шуканні працы Язэп Лёсік уладкаваўся выкладчыкам рускай мовы на станцыі Злынка, а пасля у горадзе Актарск Саратаўскай губерні, дзе ён быў зноўку арыштаваны. З турмы яму ўдалося пасλаць паштоўку, дзе было напісана: "Мои дорогие! Болезнь моя затяжная и неизлечимая. У доктора я еще не был ни разу. Ради меня не оставайтесь здесь. А я причинил вам столько горя, что если бы даже выздоровел, то уже к вам не вернусь... Живите сами, без меня. Ваш тата..."

Памёр Я.Лёсік ад туберкулёзу лёгкіх 1 красавіка 1940 года.

На заканчэнне мне засталося толькі сказаць, што ўсе самасвядомыя беларусы схіляюць галовы перад светлай памяццю асілка, волата, валявой асобы, асветніка, пісьменніка, вучонага, грамадскага і палітычным дзеяча Язэпа Лёсіка.

А.МІЦКЕВІЧ,
дацэнт кафедры філасофіі Беларускага педуніверсітэта.

ПОСТАЦІ БЕЛАРУСІ

ЯЗЭП ЛЁСІК

## ГОНАР І ГАНЬБА

# СКЛЕП АЛЕНЫ І СЫМОНА

### Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО ГЭТА ПРАЎДА...

*Я ўсё яшчэ не магу паверыць*
*у тое, што гэта праўда...*

*Ад родных ніў пайшлі упрочкі продкі.*
*Іх век суровы быў і быў кароткі.*
*Іх вёскі лютая вайна паліла.*
*Застаўся нам іх край, і хлеб, і ліра.*

Л.Дайнека.

НА ВЫВУЧЭННЕ тэмы "Наш край" у курсе гісторыі Беларусі адводзіцца па 1—2 гадзіне на год. Гэтага, безумоўна, мала. Між тым мясцовы матэрыял заўсёды выклікае ў вучняў асаблівую цікавасць. Па эмацыянальнай значнасці яго ні з чым не параўнаеш. Гэта своеасаблівы дотык да ГІСТОРЫІ. Складальнікі праграм, пэўна, прыслухаюцца да думкі навуковых супрацоўнікаў Нацыянальна-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны ("Настаўніцкая газета" за 5.02.94 г., "Ці выйдзе краязнаўства за рамкі аматарскага гуртка") аб тым, каб краязнаўства стала часткай школьнай праграмы, спачатку як факультатыў, а потым і ў якасці асобнага прадмета. Практычныя заняткі пры вывучэнні гэтага прадмета будуць спрыяць напісанню гісторыі вёскі, вывучэнню помнікаў гісторыі і культуры на тэрыторыі раёна, складанню картаў-схем паходаў па сваёй мясцовасці, слоўніка тапонімаў, свайго радаводу. З гэтага года па рашэнні педагагічнай рады ў нашай школе ўвялі курс "Беларусазнаўства". Першыя заняткі паказалі патрэбнасць такога курса, выклікалі цікавасць да яго: гісторыю пішам самі.

Здараецца, разам з дзецьмі робім адкрыцці для сябе. Пра адно з іх, на жаль, жудаснае, і хачу расказаць. Думаю, што гэтыя радкі не пакінуць абыякавымі тых, хто ведае крыху гісторыю стварэння Чырвонага касцёла, які ўпрыгожвае цэнтр нашай сталіцы. Крыху напомню яе. Касцёл быў пабудаваны на грошы старшыні Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, былога сябра Дзяржаўнага савета, слуцкага памешчыка Эдварда Вайніловіча, які валодаў некалькімі вёскамі на тэрыторыі нашага Капыльскага раёна, у тым ліку і суседняй вёскай Савічы. У Вайніловічаў было двое дзяцей: 14-гадовы сын Сымон і 18-гадовая дачка Алена. Сям'я была набожная, інтэлігентная. Легенды пра дабрыню і спагадлівасць Вайніловіча і зараз ходзяць па Савічах. Алена была вельмі прыгожай і таленавітай, марыла стаць мастачкай, заробленыя за карціны грошы аддаваць на падтрымку бедных. Але нечакана навалілася хвароба: спачатку захварэла Алена, а потым і Сымон. Несвоечасова вызначаны дыягназ каштаваў ім жыцця...

Неяк ноччу Алена прысніла Маці Божую, якая ў размове з дзяўчынай абяцала выканаць любое яе жаданне і паведаміла, што заўтра Алена з братам прыйдуць да яе. Алена папрасіла Маці Божую, каб яна дапамагла ім ачуняць: не таму, што яна баіцца смерці, а таму, што вельмі шкадавала бацькоў, якім іх смерць прынясе многа гора. "Выслухай мяне уважліва, — адказала Маці Божая. — Няхай пасля вашай смерці бацькі ўсе свае багацці аддадуць на пабудову касцёла з чырвонай цэглы, бо чырвоны колер — колер радасці. Гэты касцёл будзе для іх радасцю і суцяшэннем, бо вашы душы будуць наведваць яго ў вялікія святы і бацькі будуць адчуваць дотык нябачных рук і крылаў. Гэта і аблегчыць смутак і боль па вас. Запомні, якім павінен быць гэты касцёл". Калі Алена прачнулася, папрасіла аркуш паперы, намалявала эскіз будучага касцёла, пераказала жаданне Маці Божай і ціха сканала. Не прыходзячы ў прытомнасць, тут жа сканаў і Сымонка. Пахаваўшы дзяцей, Вайніловіч звярнуўся з просьбай да граданачальніка Мінска аб выдзяленні зямлі і дазволе на будаўніцтва касцёла. Быў складзены каштарыс, план забудовы. Яе знешні выгляд Эдвард Вайніловіч падказаў варшаўскаму дойліду Марконі. Цэглу заказалі ў адной з французскі фірм. Кожную цагліну пры перавозцы загортвалі ў паперы. Жыхары горада з нецярпеннем чакалі заканчэння будоўлі, збіралі грошы. У 1910 годзе касцёл быў асвячоны, яму надалі імя Алены і Сымона. Так гісторыя стварэння касцёла апісана яго цяперашнім пробашчым Уладзіславам Завальнюком у №1 "Беларускай мінуўшчыны" за 1993 год. За савецкі час касцёл ператварылі ў Дом кіно, знішчылі ўнутранае ўбранства. Зараз поўным ходам ідзе рэстаўрацыя касцёла (у 1990 годзе ён быў аддадзены вернікам).

ЛЕТАСЬ мы з вучнямі трапілі ў Савічы (вёска — за лесам, убаку ад галоўнай дарогі). Наш былы вучань, зараз ляснічы, Сокал Сяргей звярнуў нашу ўвагу на зарослы хмызняком узгорак сярод поля. Гэта быў фамільны склеп Вайніловічаў. Але ў якім стане! Магільныя пліты паскіданы з магіл. Аб тым, што гэта склеп, можна здагадацца па буйных камянях, якія вытыркаюцца з узгорка. На месцы магіл — ямы, на дне адной з іх — абломак металічнай труны. З жахам хадзілі мы па гэтым разрабаваным месцы. Відно было, што зусім нядаўна тут "гаспадарыў" (язык не паварочваецца сказаць чалавек) — злачынец. "Яшчэ нядаўна я бачыў тут кавалкі матэрыі, валасы...", — расказваў Сяргей. У той час я яшчэ не ведала гісторыі стварэння Чырвонага касцёла і не запомніла надпісы на плітах. Публікацыі пра касцёл Алены і Сымона, успаміны пра могілкі — няўжо гэта можна супаставіць? Зноў адправіліся ў Савічы. Пліты па-ранейшаму ляжаць вывернутыя, але, здаецца, больш там ніхто не быў. На адной з іх вельмі выразна напісана па-польску:

DΘM
S.p. Helena
Corka Edwrda
i Olimpii Uzlowskich
Woinillowiczov
13 Luty 1884
12 Luty 1903

Эпітафія дазваляе зрабіць вывад: гэта ёсць магіла дачкі Эдварда Вайніловіча — Алены.

Я ЎСЁ яшчэ не магу паверыць у тое, што гэта праўда. Пліты Сымона не знайшлі, але ёсць яшчэ дзве аднолькавыя пліты, якія, мабыць, служылі падмуркам. Значыць, павінна была быць і пліта Сымона, яе вандалы здолелі некуды зацягнуць. Навокал поле. Ніколі трактарам не адваяваць у Вайніловічаў гэты апошні прытулак: моцныя камяні ляжаць у аснове склепа, а вось пліту можна украсці. Па расказах старажылаў, разрабаванне могілак пачалося ўжо гадоў 50 таму. Прыгожы маёнтак Вайніловічаў у вайну спалілі партызаны, каб там не пасяліліся фашысты; Свята-Троіцкую царкву, якая стаяла мо 200 год, разабралі зусім нядаўна: была драўляная, баяліся, каб дзятва пажар не ўчыніла. На месцы маёнтка зараз — ферма. Побач — цікавы будынак спіртзавода, пабудаваны некалі Вайніловічам, які не далі рады накрыць дахам, так і стаіць. Ці знойдзецца гаспадар?

...На Дзяды ўвечары трапіла ў касцёл. Чароўныя гукі музыкі напаўнялі яго — ішоў вялікі канцэрт. А я ніяк не магла пазбавіцца ад успамінаў: здзічэлыя могілкі сярод поля, быццам ураганам раскіданыя надмагільныя помнікі, ямы-норы, вырытыя не зверам, а злодзеем-чалавекам. Было сумна і жудасна. Памятаеце? "Вашы душы будуць наведваць яго ў вялікія святы, нябачны дотык вашых крылаў..." А музыка гучала, прыгожыя чыстыя галасы пасавалі ёй... Здавалася, што сапраўды "пяюць і плачуць нашых продкаў душы".

Звініць струна, звініць на поўны голас, Як быццам плача ў ціхім полі колас. Той плач... той стогн...Глухі, хто іх не чуе. Сярод балот яго душа начуе.

ВОСЬ такая сумная гісторыя. Але ж хіба яна адзіная? У 10 кіламетрах ад нас знаходзіцца вёска Цімкавічы (мястэчка вядомае ўжо тым, што гэта радзіма Кузьмы Чорнага). Дык вось, цімкавіцкі храм, пабудаваны у XVII стагоддзі, згарэў веснавым днём 1985 года. Не так даўно ў часопісе "Беларусь" распавядалі пра яго. Распісаны гэты храм быў ужо ў пачатку XX стагоддзя вядомым пінскім майстрам Францішкам Бруздовічам, тым самым, што рабіў эксізы для вітражоў Чырвонага касцёла. У сваіх размалёўках ён выкарыстоўваў матывы ўзорыстага народнага ткацтва, характэрнага для нашай мясцовасці. Неяк у час правядзення фальклорнага свята мы ўпрыгожылі клас вырабамі нашых раёўскіх майстрых: падузорнікі, сурвэткі, абрусы, ручнікі, аздобленыя яркім квеценем. Здавалася, само лецейка зазірнула да нас. Хіба такое хараство не можа паўздзейнічаць на душу чалавека? Сапраўды, "мы ездзім далёка за мора чужыя глядзець гарады..." і у той жа час "мінаем і не заўважаем красу сваіх родных мясцін". Мабыць, меў рацыю так пісаць наш капыльскі паэт М.Хведаровіч. Безумоўна, месца такому хараству — у выставачнай зале, каб усе маглі любавацца гэтымі рэчамі і ганарыцца сваімі землякамі. Але пакуль знойдзем сродкі, каб іх набыць (бо неяк сорамна прасіць у якасці падарунка: старыя людзі жывуць з пенсіі, і лішняя капейчына была б ім дарэчы), можам застацца ні з чым. Вывезлі нашы гандляры за мяжу абразы ды слуцкія паясы, дабяруцца і да вышыванак...

А скончыць мне хочацца словамі Леаніда Дайнекі:

*Звініць струна так, як сама хацела.*
*І грэх на ліры той сыграць няўмела.*

Вольга Уладзіміраўна КАЛЯДА,
настаўніца гісторыі Вялікараёўскай сярэдняй школы
Капыльскага раёна Мінскай вобласці.

НА ЗДЫМКАХ: вучні і выпускнікі Вялікараеўскай школы ля фамільнага склепа Вайніловічаў 1 ліпеня 1994 г.; надмагільныя помнікі.

Фота аўтара.

# МАЗЫРСКАЯ ГІМНАЗІЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

Адзін з належных гімназіі дамоў на Спаскай гары быў выдзелены для жылля групе праваслаўных вучняў. Тут жыло 24 хлопцы — сапраўдны інтэрнат!

Была нават прапанова сабраць на адной кватэры самых лянівых вучняў, каб яны не ўздзейнічалі адмоўна на таварышаў. Але педрада гэту прапанову адхіліла.

Многія бацькі імкнуліся пасяліць сваіх дзяцей проста на прыватных кватэрах, але на гэта быў патрэбны спецыяльны дазвол педрады. За такімі кватэрамі назіралі асабліва сурова. Гэтым займаўся адзін з настаўнікаў за асноўную плату. Наведванне ім гэтых кватэр было штодзённым.

У гімназіі была свая сістэма пакаранняў за розныя парушэнні: заўвага, стаянне ля дошкі, астаўленне пасля ўрокаў, вымова, выключэнне з правам ці без права паступлення ў іншую навучальную ўстанову. Да 1872 года практыкавалася стаянне на каленях і пакаранне розгамі. Апошнім папярэджаннем аб выключэнні было занясенне прозвішча вучня на класную чорную дошку.

Сярод нарабіўшых многа шуму парушэнняў былі: "зрабіў угар у класе і не прызнаўся", " смех у час класнай малітвы", ужыванне спіртнога (выключаны адразу), спазненне на заняткі ці з заняткаў на кватэру. Нам бы гэтыя клопаты!

Быў асаблівы выпадак калі адзін з лепшых і здольнейшых вучняў VI класа прагімназіі (выпускнік) паехаў у іншы горад і здаў экзамен на аптэкарскага вучня за свайго сябра, за што атрымаў 125 руб. Хлопец быў з вельмі беднай сям'і, зарабляў урокамі, усе яго шкадавалі, але з прагімназіі яго выключылі, так ахоўвалася прыстойнасць! Так "пераадольвалася" дрэннае ўздзеянне "небагатых, малаадукаваных, не маючых магчымасці паставіць справу першапачатковага хатняга выхавання дзяцей на правільных асновах " бацькоў.

Была і сістэма заахвочванняў, у тым ліку, падзяка, узнагароджанне пахвальным лістом, прызначэнне імянных стыпендый. У распараджэнні прагімназіі ў 1909 годзе меліся стыпендыяльныя капіталы: імя імператара Аляксандра II; ад сялян Мазырскага павету — 3200 руб.; ад служачых і служыўшых у прагімназіі — 1100 руб; імя ўрача Карвій-Караткевіча — 5000 руб.; у памяць Каранацыі Мікалая II; ад таварыства дапамогі бедных вучням — 2000 руб.; імя цэсарэвіча Алексея; ад сялян Тураўскай вобласці — 3063 рублі.

Стыпендыі, як правіла, давалі стараннным і бедным вучням.

Самай высокай узнагародай выпускнікам былі медалі. У першым выпуску гімназіі (1862) было адзінаццаць юнакоў, з іх тры скончылі з медалямі. Ляшчынскі Антон, Прушынскі Георг, Шацкі Фердынанд — вось першыя мазырскія медалісты. У наступным годзе гімназію скончылі 6 юнакоў, з іх — 2 медалісты.

У наступныя гады чым больш станавілася вучняў, тым менш было медалістаў!

Застаецца дадаць, што навучанне было платным. Плата была не вельмі высокай, але паступова ўзрастала: ад 5 рублёў у год у 1859 годзе да 40 рублёў у 1888 годзе і далей.

Частка вучняў (25—34%) па беднасці ад платы вызвалялася.

Такім чынам, сродкі ад платы за навучанне складалі толькі невялікую долю расходаў навучальнай установы. Асноўныя расходы несла казна.

## НАВУЧАЛЬНА-ВЫХАВАЎЧЫ ПРАЦЭС

Знаёмства з жыццём Мазырскай гімназіі і прагімназіі, з матэрыяламі педрады сведчыць пра тое, што навучальна-выхаваўчая работа вялася строга згодна статуту, правіл, распараджэнняў вышэйшага начальства. Умоў для вялікай творчасці менавіта настаўнікам не было створана.

Асаблівая ўвага ўдзялялася рэлігійна-маральнаму выхаванню вучняў. Выхоўвалася любоў да працы, навукі, павага да законаў.

Выкладанне ішло спачатку па навучальным плане 1851 г. а з 1868 г. па плане класічнай гімназіі. Гімназія пачыналася ў асноўным як польская навучальнная ўстанова, выкладанне ішло на польскай мове. Аднак у жыцці гімназіі ўсё больш уваходзіла руская мова. Да 1864 г. укаранялася яна з вялікімі цяжкасцямі, таму, што большасць настаўнікаў і вучняў размаўляла (асабліва ў гімназіі) на польскай мове. Для значнай часткі шляхты гэтая мова была роднай.

Заўважым што адным з довадаў кіраўніцтва гімназіі аб неабходнасці неадкладна ўтварыць у навучальнай установе падрыхтоўчы клас, у першую чаргу, для навучання рускай мове, было тое, што большасць дзяцей "рускага паходжання", якія паступяць у першы клас, дрэнна размаўляюць па-руску, ужываюць беларускія словы, і выразы". У 1864 годзе наступіў перралом. Выкладчыкамі пачалі назначацца выключна людзі "рускага паходжання" — гэта значыць праваслаўныя. Руская мова стала абавязковай для ўсіх урокаў, усіх размоў у гімназіі, на кватэрах, на сходах. Педрада прасіла ўпраўленне навучальнай акругі павялічыць колькасць урокаў рускай мовы. Гэта было задаволена. Па рускай мове праводзіліся дадаткова заняткі, на якіх чыталі творы рускіх пісьменнікаў, вывучаліся іх біяграфіі, былі зацверджаны спісы кніг для абавязковага чытання вучнямі. Да рэпетытарства прыцягваліся лепшыя вучні за асобную плату.

Дадатковыя заняткі праводзіліся таксама па матэматыцы, замежных мовах.

Акрамя польскай мовы (да 1864 г.) рускай мовы і славеснасці, старажытных і замежных моў, матэматыкі, у невялікім аб'ме вывучаліся фізіка і прыродазнаўства, у большым — гісторыя і геаграфія, а таксама чыстапісанне і маляванне. І безумоўна, Закон божы.

У штатах гімназіі і прагімназіі былі настаўнікі падрыхтоўчага класа, класныя настаўнікі і іх памочнікі па нагляду за прыезджымі вучнямі, а таксама ўрачы.

Праз усю дзейнасць педрады чырвонай ніткай праходзіць незадаволенасць якасцю ведаў вучняў. Сапраўды, паспяховасць была вельмі нізкай. У 1873-74 навучальным годзе, напрыклад, з 132 вучняў у наступныя класы без пераэкзаменовак было пераведзена 44 (!). 22 вучні былі выключаны па ўзросце ( пераросткі-другагоднікі)). Інспектарскія праверкі сведчылі пра слабыя веды многіх вучняў. Гэта лічылася адной з прычын ператварэння гімназіі ў прагімназію.

Якія ж прычыны гэтай з'яве знаходзіла педрада? Вось некаторыя з іх:

беднасць і неадукаванасць многіх бацькоў;

слабая падрыхтоўка дзяцей, якія паступаюць вучыцца ў гімназію (прагімназію);

нявыхаванасць вучняў, якія жывуць у дрэнных для развіцця ўмовах;

непрыязныя адносіны многіх бацькоў да навучальнай установы (бацькі глядзелі на педагогаў, як на ворагаў сваіх дзяцей, пазбягалі з імі зносін па справах сыноў, якія вучыліся...;

недастатковая абсталяванне навучальных кабінетаў;

дрэнныя жыллёвыя умовы;

частая змена настаўнікаў, а часта іх адсутнасць;

настаўнікі былі занепакоены перагрузкай вучняў, якая адмоўна адбівалася на іх здароўі.

Абмеркаванне гэтага пытання правяло да выяўлення некаторых прычын перагрузкі:

ігнараванне настаўнікамі "цяжкіх дзён", калі вучні вымушаны былі рыхтавацца да пяці ўрокаў;

недахопы ў тлумачэнні новага матэрыялу, калі некаторыя настаўнікі не выдзяляюць галоўнага , застаецца многа незразумелага для вучняў;

частая змена падручнікаў і цяжкасці ў засваенні іх зместу;

непрадуманая арганізацыя паўтарэння;

нявопытнасць маладых педагогаў.

Настаўнікі шукалі і знаходзілі выйсце ў асноўным традыцыйнымі шляхамі. Тут і цэлая сістэма дадатковых заняткаў, у тым ліку, для жадаючых гутаркі аб з'явах жыцця, гістарычных падзеях, удасканаленне навучальнага працэсу, паўтарэнне ("рэпетыцыі"), экзамены, упартая работа з бацькамі (з 1905 г. працаваў бацькоўскі камітэт), узмацненне клопату аб здароўі вучняў. Гэта ўсё давала некаторыя вынікі.

Астановімся і падумаем: ці не сустракаемся з падобнымі з'явамі мы і зараз. Я вазьму толькі тое, што датычыцца ўстаноў адукацыі, школы. Хто з нас не чуў скаргаў настаўнікаў у пачатковым звяне? Не заўсёды гэтыя скаргі беспадстаўныя. На мой погляд, самая вялікая праблема, з якой сустракаюцца настаўнікі, пачынаючы з 5 класа, — гэта няўменне многіх дзяцей добра чытаць. За 4 гады яны гэтаму так і не навучыліся, і гэта застаецца на многія гады, а то і на ўсё жыццё. Не маю права на абагульненне, але праблемы тут ёсць.

Па ідэі ў цяперашнія гімназіі вучні павінны прымацца па конкурсу, незалежна ад мікрараёна. Але не заўсёды так атрымліваецца. Тут і вялікая адлегласць да гімназіі і нават нежаданне школ "аддаць" лепшых вучняў, і іншыя прычыны. У мазырскай школе №3, якая стала першай у горадзе гімназіяй, вырашылі самі рыхтаваць для сябе гімназістаў. Тут захавалі пачатковыя класы (іх называюць прагімназіяй). Можа гэта і правільна, але кіраваць адначасова і гімназіяй і прагімназіяй напэўна цяжка, хаця вынікі гэта дае добрыя.

А перагрузкі? Нашы старшакласнікі пасмяяліся б, калі даведаліся б, што падрыхтоўка да пяці ўрокаў — перагрузка. А сем урокаў тыя гімназісты маглі б сабе ўявіць?

А падручнікі?.. Скажу толькі адно: са з'яўленнем новых падручнікаў гісторыя стала адным з самых цяжкіх прадметаў, перастае быць любімым. Жадаючых здаваць экзамен па гісторыі зараз адзінкі. Дзеці і нават многія бацькі не разумеюць падручнікаў, стогнуць ад параграфаў, у якіх па 15-20 старонак, дзесяткі прозвішчаў і лічбаў. Гэта каго-небудзь турбуе?

Але многім з нашых школ можна павучыцца ў калег канца XIX— пач. XX ст. вось чаму: у невялікай мазырскай гімназіі быў вялікі хор, вучнёўскі духавы аркестр. Аб іх дасягненнях гаворыць праграма святкавання 50-годдзя.

Праводзіліся заняткі па гімнастыцы, рухомыя гульні, катанне на лодках, каньках, проста прагулкі па цікавых месцах.

Гімназія і прагімназія ў маленькім горадзе жылі поўнакроўным жыццём.

## ГІМНАЗІЯ І ГОРАД

Ужо падкрэслівалая, што само існаванне гімназіі і прагімназіі, з'яўленне групы высокаадукаваных педагогаў і вялікай колькасці юнакоў-гімназістаў аказвала вялікі ўплыў на жыццё Мазыра.

Гімназічныя святы станавіліся падзеямі ў гарадскім жыцці. У 1908 г. было адзначана 300-годдзе з дня смерці Кастуся Астрожскага. Цяпер мы ўсе добра ведаем пра жыццё і подзвігі Кастуся Астрожскага, выдатнага палкаводца і дзяржаўнага дзеяча, але намнога менш ведаем пра яго сына — кіеўскага ваяводу, стваральніка на свае сродкі многіх школ, у тым ліку, у Тураве (1578 г.). Тады ведалі пра гэта лепш. Праўда, аб беларускім падаходжанні князёў Астрожкіх размовы не было.

Асабліва быў узрушаны горад падзеямі ў гімназіі ў 1863 годзе.

Падзеі разварочваліся спачатку паступова. Яшчэ ў 1807 годзе дырэктару гімназіі было загадана сачыць за тым, каб гімназісты не ўдзельнічалі ў палітычных дэманстарцыях. Заўважаных у гэтым адразу выключалі з гімназіі. Узмацніўся нагляд за вучнёўскімі кватэрамі, за наведваннем касцёлу.

У 1862 годзе была закрыта нядзельная школа пры гімназіі, у якой маглі займацца ўсе жадаючыя. Аднак папераджальныя захады не далі вынікаў. А калі ў пачатку 1863 г, у гімназіі было аб'ялена аб забароне насіць нефармальнае адзенне, выходзіць з кватэр без пісьмовага дазволу — вучні збунтаваліся, пачуліся выкрыкі, свіст, былі парваны журналы для запісаў аб выхадзе вучняў з кватэр, некалькі "зачыншчыкаў" адразу выключылі з гімназіі. З даносу аднаго з рамеснікаў стала вядома, што група вучняў, да 20 чалавек, папрасіла яго вырабіць за пэўную плату вялікія нажы. У некаторых вучняў былі стрэльбы. Тых, каго пазнаў даносчык, неадкладна выключылі з гімназіі. У адказ натоўп вучняў сабраўся каля кватэры дырэктара і патрабаваў аднавіць выключаных. У гэтым было адмоўлена. Выключэнні працягваліся. Вучнёўскія беспарадкі перанесліся ў горад. Выключаныя вучні і тыя, хто да іх далучыўся, хадзілі па вуліцах у касцюмах паўстанцаў, спявалі баявыя песні, білі вокны ў дамах дырэктара і асобных выкладчыкаў.

Некаторыя вучні збіраліся пайсці ў лясы, стварыць атрад. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося ўтрымаць іх намаганнямі педагогаў і дырэктара Шульгіна.

Мазыр і павет былі аб'яўлены на ваенным становішчы Пакольке гарадскія ўлады спачувалі паўстанцам, парадак наводзілі салдаты і афіцэры гарнізона.

Было аб'яўлена, што калі ў гімназіі ўзнікнуць новыя хваляванні, яна будзе закрыта. Супраць удзельнікаў хваляванняў працягваліся рэпрэсіі. Патрэбна сказаць, што не ўсе настаўнікі падтрымалі гэтыя рэпрэсіі. І не толькі настаўнікі-католікі, але і рускі педагог, інспектар гімназіі Мадэст Аляксеевіч Мудроў, які працаваў у гімназіі з дня яе адкрыцця. Ён выступаў супраць выключэння вучняў, адмаўляўся ўдзельнічаць у абмеркаванні палітычных абвінавачванняў і быў зволены з пасады. З 1864 года многае змянілася ў гімназіі. Па загаду вышэйшых улад было забаронена вывучэнне польскай мовы (беларуская ніколі тут не вывучалася), пачалася замена настаўнікаў-католікаў, якія ўсе лічыліся палякамі, рускімі настаўнікамі. Нават выкладанне Закона Божага для вучня рымска-каталіцкага веравызнання было пераведзена на рускую мову.

Думаецца, што падзеі 1863 года былі ўлічаны ўладамі пры вырашэнні пытання аб лёсе гімназіі праз дзесяць год.

У 1905 годзе прагімназія зноў аказалася ў цэнтры падзей. Усе мітынгі, сходы, выбары стачачнага камітэта, абвяшчэнне "Мазырскай рэспублікі" фактычна адбываліся на тэрыторыі прагімназіі, і вучні не заставаліся ў баку. З 18 па 31 кастрычніка 1905 года заняткі былі перапынены.

Наезвычайнай падзеяй у жыцці горада, вялікім гарадскім святам было святкаванне 50-годдзя гімназіі ў кастрычніку 1909 года. Такога велічнага свята Мазыр ніколі не бачыў. Прысутнічалі прадстаўнікі улады, грамадскасці, былыя вучні. Зачытваліся віншавальныя пісьмы і тэлеграмы. Прывяду толькі адну:

"З Кіева. Шлю гарачыя прывітанні роднай прагімназіі, жадаю ёй росквіту і пашырэння. Паклон і прывітанне маім настаўнікам, прывітанне іх прыемнікам.

Прафесар Доўнар-Запольскі".

Праз многія гады захаваў памяць аб сваёй роднай навучальнай установе выдатны гісторык-прафесар Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі.

На гэтым можна і кропку паставіць. Але хочацца сказаць яшчэ некалькі слоў.

Сёння гімназіі, ліцэі, каледжы сталі рэчаіснасцю. Гэта добра. Але небяспечна, калі такія навучальныя ўстановы — толькі даніна модзе, а іх стварэнне — простая змена шыльды. Таму асобам, якія вырашаюць пытанне аб адкрыцці навучальных устаноў новага тыпу, перш чым званіць у званы, трэба, як кажуць, заглянуць у святцы, дакладна выявіць неабходнасць стварэння і сутнасць гэтых устаноў. І тут можа аказаць дапамогу вопыт мінулага. Не выпадкова дырэктар першай у горадзе маладой гімназіі, створанай на базе школы №3, Ядзвіга Станіславаўна Безкаравайная — чалавек удумлівы, адказны і з вялікім пачуццём новага, у пачатку дзейнасці гімназіі ўважліва вывучыла кнігу К.Шпакоўскага. Думаю, што нешта яна адтуль і ўзяла. Безумоўна, сённяшняя гімназія ў Мазыры ў многім непараўнальна з той з XIX стагоддзя. Кадры настаўнікаў стабільныя, выдатны будынак, добра наладжаны псіхалагічная служба і дзейнасць сацыяльных педагогаў, якія штодзённа вывучаюць настрой кожнага вучня. Працуюць філіялы музычнай і мастацкай школ. У настаўнікаў ёсць вялікая магчымасць для творчасці. Немалаважна падтрымка гарадскіх улад.

Сіла навучальнай установы — яе педагогі. Ствараць калектыў гімназіі, ліцэя патрэбна на аснове сур'ёзнага конкурсу. Гімназія не павінна быць вельмі вялікай — гэта не масавая школа, дзе зараз вучыцца па паўтары-дзве тысячы вучняў. Прыём у гімназію таксама павінен быць па конкурсу.

Думаю, што, калі мы трошкі разбагацеем, паявяцца і спецыяльныя будынкі для гімназій з улікам іх асаблівасцяў.

А наогул, канечне, дзяцей трэба вучыць добра і ў гімназіі, і ў ліцэй, і ў звычайнай школе. Гэта ж будучае нашай краіны.

Яфім ФАРБЕРАЎ,
настаўнік гісторыі мазырскай
школы №13.

# БАНК ідэй

## Спецыяльны выпуск "Настаўніцкай газеты": інавацыі, прапановы, праекты, перспектывы

## Чаму будучае не вельмі хоча быць такім, якім мы яго хацелі б бачыць

Ідэя стандартаў адукацыі мае значэнне для эстэтычнага развіцця асобы. Аднак толькі тады, калі яна грунтуецца на канкрэтных патрабаваннях часу, сістэмах, напрацоўках і г.д. Прыняцце стандартаў у адукацыі не можа нас суцяшаць па прычыне стэрэатыпнасці ў рабоце многіх навучальных устаноў. Ды і наша грамадскасць таксама не гатова яшчэ прымаць стандарты-рэкорды, асабліва ў сектары інтэлектуальнага развіцця.

Вельмі важна, каб работа навучальнай установы вялася ў мастацка-эстэтычным напрамку. Культура, інтэлект і творчасць спрыяюць фарміраванню тых самых умоў, дзе кожны вучань вызначае свой узровень магчымасцяў і адказнасці за свой інтэлектуальны "багаж". Звыклы арсенал метадаў і тэхналогій навучання, акадэмічная накіраванасць заўсёды трымаюць адукацыю і выхаванне на высокім узроўні. Патрабаванні да ведаў, вывучаемыя дысцыпліны і выстаўленне адзнак акрэсліваюць высокі інтэлект.

За мяжой прэвалюе тэндэнцыя запрашэння на заняткі вядомых людзей (навукоўцаў), дзе яны выступаюць з лекцыямі, дэманструюць сваё майстэрства, вядуць гутаркі аб сваёй прафесіі.

Але арыентацыя толькі на навучанне параджае бездухоўнасць. Навука і мастацтва — вось фундамент навучальна-выхаваўчага працэсу.

На выяўленчае мастацтва ў школе ёсць розныя пункты гледжання, якія абапіраюцца на многія эстэтычныя канцэпцыі. Вырашаючы тры асноўныя задачы — выяўленчую, тэхнічную і выхаваўчую — яно з'яўляецца сапраўднай крыніцай прыгажосці і развіцця добрага густу. "Для таго і служыць мастацтва, каб даць магчымасць пазнання дабра і зла" (А.Дзюрэр). Згасанне выхаваўчай функцыі заўсёды разбурае духоўнасць, інтэлектуальнасць, маральнасць, цывілізаванасць. Грамадства на бягучы момант змяніла пункт гледжання на выхаванне асобы. "Асноўная функцыя выхавання — дапамагчы маладому чалавеку захаваць чалавечае аблічча", — піша кандыдат філасофскіх навук М.Гусакоўскі. Доктар педагагічных навук В.Каракоўскі зазначае, што "выхаванне так ужо запушчана, што натуральнага здаровага сэнсу і жыццёвага вопыту не хапае". Можа і сапраўды мы не бачым эталонаў выхаванасці нашых вучняў, але ж выхаванне — гэта не толькі місія аднаго настаўніка. Сёння прававая сістэма "ідзе ў разнос". Грамадства павінна будавацца толькі на тых індывідах, якія паважаюць свабоду і правы другога. І хаця культура каштуе вельмі дорага, але яшчэ даражэй абыходзіцца грамадству бескультур'е. Як можна адносіцца да таго, што ў нашых школах няма падручнікаў па выяўленчым мастацтве? І якія стандарты мы можам тут прымаць?

Культура кожнай нацыі спалучае матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. Цэнтральная з'ява культуры — гэта чалавек (суб'ект), які засвойвае гэтыя духоўныя каштоўнасці. Прыпомнім вядомыя словы Дзідро: "Краіна, у якой вучылі б маляваць так, як вучаць пісаць, перасягнула б хутка ўсе астатнія краіны ва ўсякіх мастацтвах".

Мастацтва ў сярэдняй школе, на мой погляд, трэба разглядаць як цыкл прадметаў. Асноўныя кіты — мастацкая літаратура, музыка, выяўленчае мастацтва, якія вядуць у бібліятэку, тэатр, музей, дзе эстэтызуецца вучнёўскае асяроддзе. Школа — гэта сістэма сістэм, дзе вывучэнне мастацтва пачынаецца з назапашвання і сістэматызацыі ведаў, вобразнага мыслення, успрымання твораў мастацтва. Усё гэта вядзе чалавека да высокай культуры і маральнасці.

Але сістэматызацыя ведаў павінна будавацца на хрэстаматыйных пачатках, якія часта губляюцца, пачынаючы з навучальнага сэрвісу. Жыццёвы вопыт падказвае, што трэба ўдасканальваць сістэматызацыю відаў і жанраў мастацтва, а менавіта:

літаратура (мастацкая - бібліятэка); выяўленчае мастацтва (музей); музыка (тэатр).

Стылістычная эвалюцыя відаў і жанраў заўсёды знаходзіцца ў гістарычным развіцці. А ўспрыманне мастацтва трэба разумець як складаны працэс прыему і пераўтварэння інфармацыі. Вобраз у мастацтве — спецыфічная форма адлюстравання акружаючага асяроддзя.

У многіх краінах свету літаратуру класіфікуюць па чатырох асноўных раздзелах: 1 — мастацкая, 2 — навуковая, 3 — эпісталярная (пісьмы, раманы, вершы), 4 — спецыяльная. Літаратура — ад лацінскага — твор пісьменнасці. Носьбітам вобразнасці ў літаратуры з'яўляецца мова (слова, думка). Мова — матэрыяльны носьбіт вобразнасці, сродак узаемін людзей. Схематычна гэты сродак можна паказаць так: узаеміны — гук — слова, сказ — мова: вусная, пісьмовая; два асноўныя тыпы мастацкага слова: паэзія, проза.

Эпас, лірыка і драма дзеляцца, у сваю чаргу, на самастойныя жанры. (Эпас — паэма, балада, байка, быліна, казка, раман, апавяданне). Лірыка групуецца па тэмах, а драма, у сваю чаргу, выстаўляе тры раздзелы (драма, камедыя, трагедыя). Кінасцэнарыі навукай як асобны жанр не выдзяляюцца. Літаратуразнаўства вядзе нас да тэорыі, гісторыі і літаратурнай крытыкі. Вобраз, змест і форма — важнейшыя кампаненты ўспрымання літаратурных твораў. Цікава, што літаратурныя жанры вызначаюцца на аснове прыналежнасці да таго ці іншага роду, тады як у выяўленчым мастацтве — на аснове прадметаў выяўлення, а ў музыцы — па розных прыкметах. Для музыкі паняцце жанр павінна адказваць на некалькі пытанняў: дзе выконваюць? хто выконвае? для каго выконваюць? для чаго выконваюць?

Паняцце "жанр" заўсёды абагульняе рысы, якія характэрны шырокай групе твораў якой-небудзь эпохі, нацыі або часткі свету — у сэнсе мастацтва наогул.

Музыка — від мастацтва, які адлюстроўвае асяроддзе ў гукавых вобразах і актыўна ўздзейнічае на псіхіку чалавека, перадае эмацыянальны стан людзей. Яна звязана з далёкай мінуўшчынай. Музы — дочкі Зеўса і Мнемасіны — багіні паэзіі, мастацтваў і навук. Іх дзевяць: Кліо, Эўтэрпа, Талія, Мельпамена, Тэрпсіхора, Эрато, Палігімнія, Уранія і Каліопа.

Але вернемся да сістэматызацыі жанраў музычнага мастацтва па наступных прыкметах:

1 — па ступені ўспрымання — "лёгкая" і "сур'ёзная" музыка;

2 — па аўтарскіх прыкметах — народная ці кампазітарская музыка;

3 — па выканаўчых сродках — інструментальная, вакальная, вакальна-інструменальная, фартэпіянная, арганная;

4 — па змесце (лірычная, драматычная, эпічная, праграмная);

5 — па прыкладным прызначэнні — песня, танец, марш і да т.п.

Старажытныя формы музычнага мастацтва: калыханкі, пахавальныя плачы, працоўныя песні, ваенныя маршы. Музычная мова цесна звязана з літаратурнай. Музыка мае свае сродкі выразнасці: мелодыя, лад, гармонія, тэмп, дынаміка, метрарытм, тэмбр. Усе сродкі служаць таму, каб перадаць з найбольшай сілай пераканаўча жыццёвы вобраз.

Саната і сімфонія, уверцюра і сюіта, канцэрт і паэма, фантазія і балада — гэта жанравыя назвы буйных твораў. Ды і само слова "жанр" па-французску азначае — род, від, манеру, густ, звычай.

Не трэба трывожыцца за тое, што адзін і той жа твор можа адносіцца да многіх жанравых груп. Напрыклад, скульптура "Медны наезнік" Э.М.Фалькане — гэта і помнік, і партрэт, і алегарычная скульптура. Вядомы і культавыя жанры: літургія, меса, рэквіем, дзе асобныя часткі — гэта простыя жанры. Многія жанры мяняюцца або сходзяць са сцэны. У наш час працэс узаемадзеяння і мадэфікацыя жанраў працягваюцца.

Выяўленчае мастацтва адлюстроўвае рэчаіснасць наглядна. Гэты від мастацтва мае магчымасць адлюстроўваць бачнае на плоскасці або ў прасторы.

Выяўленчае мастацтва аб'ядноўвае графіку, скульптуру, жывапіс, архітэктуру і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Кожны з гэтых відаў мае шэраг важных раздзелаў і можа быць паўнацэннай тэмай урока. Напрыклад, графіка (малюнак, раздрукоўка) — кніжная, плакатная, прамысловая, навучальна-афарміцельская. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва ўключае ў сябе ўзоры, арнаменты, шрыфты, роспіс, разьбу, вышыўку, ткацтва, касцюмы, вырабы прадметаў быту і г.д. Дызайн (сінтэз мастацтва і тэхнікі) у школах Амерыкі вывучаюць як асобны прадмет.

Калі ў агульныя тэмы падключаць развіццё стыляў, слоўнікавы матэрыял, гісторыю развіцця нацыянальных культур, практыкаванні па малюнку і кампазіцыі, сродкі выразнасці, то вывучэнне выяўленчага мастацтва стане акрэсленым і цікавым накірункам, які аб'ядна́е многія прадметы.

Але пакуль што гэтае зачараванае кола мае мноства недахопаў, а самадзейныя інавацыі прыводзяць, як правіла, да інтэлектуальнага сабатажу. Мусіць, таму і будучае не вельмі хоча быць такім, якім мы яго хацелі б бачыць. Настаўнікі-бурлакі пакутліва цягнуць баржу адукацыі. Але і ў такіх ўмовах мастацтва жыве і будзе жыць у цеснай сувязі з навукай.

* * *

Згодна канцэпцыі стандартаў агульнай сярэдняй адукацыі прадугледжваецца ўвядзенне такіх паняццяў, як "адукацыйная вобласць". Аб'ём інфармацыі ў адукацыйнай вобласці, яго навуковасць і засваенне навучэнцамі мае непасрэднае дачыненне да стандартызацыі.

Тэма урока — гэта заўсёды састаўная частка раздзела якога-небудзь прадмета. Вобласць "мастацтва" прапануе шырокі спектр ведаў. Вымяральнікам стандартаў можа стаць заданне з гатовымі адказамі, з ліку якіх выбіраюць найбольш правільныя. Прапанаванае заданне для вучняў 7—8-х класаў выяўляе агульныя веды і кругагляд па тэме "Віды і жанры мастацтва". Перад выкананнем задання неабходна правесці ўрок-лекцыю на гэтую тэму з асноўнымі пытаннямі:

Культура (матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, свет-чалавек).

Мастацтва (віды, жанры, мастацкая літаратура, выяўленчае мастацтва, музыка, жанравая аснова).

Бібліятэка, музей і тэатр — збіральнікі, зберагальнікі і дэманстратары мастацтва.

Сінтэтычныя віды мастацтва — кіно, тэлебачанне, дзе мова (слова), музыка і адлюстраванне ідуць побач. Дызайн — сінтэз навукі і мастацтва.

Прапануйце вучням раскрыць эвалюцыю жанраў у мастацтве (музыцы, літаратуры, выяўленчым мастацтве). Звярніце ўвагу на тое, што выяўленчае мастацтва можа быць прадстаўлена такімі відамі: графіка, скульптура, жывапіс, архітэктура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Прапанаваная гутарка можа быць зафіксавана ў сшытках з улікам таго, што вучні знойдуць апору і пункт гледжання на пастаўленыя пытанні.

Адказы лепш пісаць лічбамі, мяняючы варыянты для паралельных класаў — 1, 2, 3.

Усяго — 18. 4—5 памылак у адказах патрабуе пераздачы гэтай тэмы.

Правільны варыянт адказаў зачытайце пасля праверкі. Наступныя работа можа завяршыцца аналізам выбраных адказаў.

Для падрыхтоўкі тэмы я параіў бы выкарыстаць наступную літаратуру:

Бяспалы А.А. Выяўленчае мастацтва Беларусі і сродкі яго адлюстравання. — Мн. "Навука і тэхніка" 1994 г.

Популярная художественная энциклопедия в 2-х томах. М. 1986 г.

Кирцер Ю.М. Рисунок и живопись (практическое пособие) М. 1992г.

Кильпе Т.Л. Основы архитектуры. М. Изд. "ВШ" 1989 г.

Шешко И.Б. Построение и перспектива рисунка. Словарь. Мн. 1973г. Книга о музыке: Популярные очерки (Сост. Г.Головинский, М. Ройтерштейн) М. "СК" 1988г.

Виппер Б.Р. Введение в историческое изучение искусства М.1985 г.

А вось заданне з гатовымі адказамі на тэму "Віды і жанры мастацтва"

КУЛЬТУРА
1. Прыкладныя паводзіны чалавека.
2. Духоўнае развіццё грамадства.
+ 3. Спалучэнне матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў.

МАСТАЦТВА
1. Творчасць, навучанне і выхаванне.
+ 2. Адлюстраванне навакольнага свету ў мастацкіх вобразах.
3. Майстэрства і віртуознасць выканання твораў.

ЖАНР
+ 1. Унутранае падраздзяленне віду.
2. Тэматычны напрамак у творчым працэсе.
3. Галіна мастацтва.

ЛІТАРАТУРА
(Мастацкая)
+ 1. Творы пісьменнасці, якія маюць грамадскае значэнне.
2. Сродак узаемін паміж людзьмі.
3. Друкаваныя творы: вершы, апавяданні, казкі і інш.

Выяўленчае МАСТАЦТВА
+ 1. Мастацтва, звязанае са зрокавым успрыманнем рэчаіснасці і адлюстраваннем яе ў наглядных вобразах.
2. Гэта малюнак і жывапіс.
3. Мастацтва, якое выкарыстоўвае народныя традыцыі.

МЫЗЫКА
1. Мастацтва, у якім галоўным выразным сродкам з'яўляецца інтанацыя.
2. Музыка — гэта гукі, мелодыя і гармонія.
+ 3. Від мастацтва, дзе вобразнае фарміраванне працякае пры дапамозе гукаў.

ГРАФІКА
1. Партрэты, выкананыя фарбай чорнага колеру.
2. Малюнкі старажытных мастакоў.
+ 3. Мастацтва, якое ўключае малюнак, выкананы ад рукі або друкаваным спосабам.

СКУЛЬПТУРА
1. Фігуры з бронзы або другіх матэрыялаў.
+ 2. Від выяўленчага мастацтва, творы якога маюць аб'ёмную форму.
3. Фігуры чалавека або жывёлін, якія ўстаноўлены на п'едэсталах.

ЖЫВАПІС
+ 1. Від выяўленчага мастацтва, які адлюстроўвае навакольны свет ці асобныя прадметы фарбамі на плоскасці.
2. Карціна, выкананая маслянымі фарбамі.
3. Мастацтва, дзе фарба і колер — галоўныя сродкі выразнасці.

АРХІТЭКТУРА
1. Вызначаная форма і вышыня збудаванняў.
2. Будынкі (пабудовы) у горадзе або на сяле.
+ 3. Будаўнічае мастацтва, сістэма збудаванняў, якая фарміруе прасторавае асяроддзе для жыцця і дзейнасці людзей.

ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА
1. Народныя промыслы.
+ 2. Мастацтва, якое выкарыстоўвае народныя традыцыі і мае свае асаблівасці.
3. Упрыгожванне прадметаў быту і жылля.

ДЫЗАЙН
1. Асвятленне і азеляненне інтэр'ераў.
2. Змяненне формы і колеру прадметаў.
+ 3. Сінтэз навукі і мастацтва.

БІБЛІЯТЭКА
+ 1. Установа, дзе збіраюцца і зберагаюцца кнігі.
2. Спіс літаратуры на вызначаную тэму.
3. Збор твораў мастацкай літаратуры, слоўнікаў і падручнікаў пры навучальнай установе.

МУЗЕЙ
1. Калекцыя старажытных прадметаў.
2. Выстаўка (выстава) экспанатаў, якія размешчаны ў гістарычнай паслядоўнасці.
+ 3. Установа, дзе збіраюцца, зберагаюцца і экспануюцца творы мастацтва, навукі, гісторыі, экспанаты тэхнікі, прыроды.

ТЭАТР
1. Месца для акцёраў, дзе ёсць сцэна і зала для гледачоў.
2. Збудаванне з калонамі і глядзельнай залай.
+ 3. Месца для відовішчаў.

ФОРМА
1. Контур прадмета, або яго абрыс.
+ 2. Шматзначнае слова, якое ў мастацтве абазначае спалучэнне прыёмаў і выразных сродкаў.
3. Форма адзення (школьная, ваенная, марская і г.д.).

ВОБРАЗ
1. Расказ аб характары якога-небудзь чалавека.
+ 2. Адзінства жыццёвага зместу і мастацкай формы.
3. Аблічча чалавека ў мастацтве.

СТЫЛЬ
1. Модная прычоска або адзенне.
2. Галоўны напрамак у развіцці музыкі і архітэктуры.
+ 3. Адзінства вобразнай сістэмы, сродкаў выразнасці і творчых прыёмаў.

**Яўген КАРПУЦЬ,**
настаўнік выяўленчага мастацтва вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы №2 Стоўбцаў Мінскай вобласці.

## Што сёння можна зрабіць, каб спыніць рух па інерцыі

Павысіць эфектыўнасць кожнага ўрока — перш за ўсё азначае зрабіць яго падзеяй для вучняў. Яркі, эмацыянальна афарбаваны, насычаны творчай дзейнасцю ўрок — ці не казка гэта? Хіба не пра такія ўрокі мараць дзеці, калі ідуць у школу? І хіба не ўзнікае ў іх пачуццё расчаравання ў навучанні, калі казка не адбылася?

А дзе жыве казка?

Казка жыве ў гульні!

Дзіця гуляе, а значыць і жыве ў казцы, пачынаючы з 2 - 3-гадовага ўзросту. Колькі яно за гэты час спасцігае? Мяняюцца гульні, з рэчавых пераходзяць у сюжэтна-ролевыя, затым, на больш познім этапе дашкольнага дзяцінства, гульня пераходзіць ва ўнутраны свет, калі яна можа не столькі ўвасабляцца ў бачных рухах, колькі пракручвацца ў свядомасці дзіцяці, але ва ўсіх выпадках гульня — гэта жыццё дзіцяці. Значэнне гульні падкрэслівалі такія слынныя педагогі, як К.Дз.Ушынскі, В.А.Сухамлінскі, Л.М.Талстой, Н.К.Крупская, А.С.Макаранка.

Пасля распрацовак Л.С.Выгоцкага, А.М.Лявонцьева і іншых у дзіцячай псіхалогіі цвёрда ўсталявалася думка, што менавіта гульня з'яўляецца ў дашкольным узросце вядучым фактарам у псіхічным развіцці дзіцяці. Яе значэнне шматграннае. І што для нас, настаўнікаў музыкі, як аднаго з відаў мастацтва, асабліва важна, гэта тое, што толькі ў гульні праяўляюцца і развіваюцца ўяўленне і фантазія, абапіраючыся на вопыт, які набываецца паступова, становячыся больш складаным і шматбаковым. Л.С.Выгоцкі яшчэ ў 30-я гады даказаў, што ўяўленне не ўзнікае ў гульні, а менавіта праяўляецца і развіваецца ў ёй.

А ці патрэбны нам для музычнага навучання і выхавання дзяцей фантазія, уяўленне?

Дз.Б.Кабалеўскі казаў, што ўрокі музыкі (у якой бы форме і дзе б яны не праходзілі) заўсёды з'яўляюцца ўрокамі мастацтва. Агульным для відаў мастацтва, у тым ліку і музыкі, з'яўлецца эстэтычнае авалоданне навакольным светам і адлюстраванне рэчаіснасці, якая акружае чалавека, у мастацкіх вобразах. У працэсе іх стварэння выключную ролю адыгрываюць ўяўленні і фантазія. Значыць, без фантазіі і ўяўлення ў мастацтве няма чаго рабіць! Уяўленне — аснова любой творчасці. Сотні тысяч іскрынак творчага ўяўлення рассыпаны па дзіцячых гульнях. З цягам часу яны могуць згаснуць, калі іх не раздзьмухваць, і тады будзе вельмі складана, амаль немагчыма навучыць падлетка, дарослага творчаму падыходу ў пераўтварэнні рэчаіснасці. Але калі іх, гэтыя іскрынкі, умелымі рукамі дарослага, настаўніка накіраваць так, каб паступова распальваліся спачатку маленькія, потым, пазней, вялікія кастры творчай самадзейнасці, то вынік будзе самым цудоўным: малы чалавек увойдзе ў жыццё з жаданнем ствараць, рабіць новае, пераўтвараць старое — у чалавека вырастуць крылы. Вось такія багатыя магчымасці тояць у сабе гульні.

Сама прырода дыктуе настаўнікам музыкі не спыняць гэтую дзейнасць дзяцей з пераходам іх у сістэму школьнага навучання, а насыціць яе спецыяльна скіраванымі відамі працы па развіцці ўсіх відаў музычных здольнасцяў. Інакш мы штучна абарвём нітку, якая ідзе да нас у рукі з самага ранняга дзяцінства, нітку творчага ўяўлення, якое няспынна развіваецца. Што ж нам рабіць тады на ўроках мастацтва? Тое, што мы згубім, як даказана шматгадовай практычнай дзейнасцю дзіцячых музычных школ, ператворыцца ў беззваротную страту для развіцця не толькі асобы, але і ўсёй духоўнай культуры нашага грамадства.

У спецыяльна накіраваных гульнях мы можам і павінны вырашыць такія істотныя пытанні, як развіццё спецыяльных, а ў дадзеным выпадку — музычных здольнасцяў, да якіх адносяцца: рытм, слых, памяць, творчасць і выканаўства. У айчыннай псіхалогіі сфармулявана даказаная практыкай заканамернасць: "Здольнасці развіваюцца ў адпаведнай дзейнасці". Паколькі для паспяховых заняткаў музыкай у дзіцяці неабходна развіваць спецыяльныя музычныя здольнасці, пастолькі неабходна арганізаваць адпаведную дзейнасць, накіраваную на развіццё іх усіх без выключэння.

На гэтым пытанні неабходна крыху затрымацца і высветліць для сябе значэнне развіцця ўсіх здольнасцяў у комплексе. Як мы ўжо можам з жалем адзначыць, у музычнай педагагічнай практыцы мінулых гадоў даволі моцна была развіта тэндэнцыя на дасягненне чыста тэхнічных вынікаў, асабліва пры навучанні ігры на інструменце. Пры гэтым выкладчыкі рабілі апору на рэпрадукцыйны метад выхавання, г.зн. аднаўленне таго, што ўтрымлівае памяць. Усіх дзяцей выхоўвалі аднолькава — рыхтавалі з іх выканаўцаў. Такая ж лінія працягвалася і далей — у музычных вучылішчах, у профільных вышэйшых спецыяльных навучальных установах. Сёння аб гэтым галоўным недахопе сістэмы музычнай адукацыі гавораць паўсюдна, але гавараць мала, трэба самім настаўнікам не толькі ўсведамляць свае мінулыя памылкі, але і пастарацца як мага хутчэй спыніць рух па інерцыі. Усе здольнасці неабходна развіваць комплексна.

Для тых, хто пачынае спасцігаць законы музычнага развіцця дзяцей, творчасць у яе элементарнай форме асабліва важная, бо толькі праз асабістую творчасць практычна магчыма спасцігнуць законы развіцця музычнай мовы, яе складаемыя: гук, рытм, фразу, сказ, інтэрвалы, акорд з іх абарачэннем і г.д. Прычым заўсёды прысутнічае канчатковы вынік творчасці ў выглядзе песні, акампанемента да мелодыі, інструментальнай п'есы, імправізацыі, такім чынам дзеці спасцігаюць і законы развіцця ўсіх відаў музычнай дзейнасці, усіх асноўных форм музыкі як мастацтва. На жаль, да нядаўняга часу многія настаўнікі памылкова лічылі, што перш-наперш неабходна навучыць дзіця нотнай грамаце, аднаўленню дадзенага тэксту, а ўжо потым, калі яго тэхнічныя навыкі дасягнуць пэўнага ўзроўню, можна прыступаць і да сачынення паводле дадзеных шаблонаў, не адступаючы ад законаў кампазіцыі. Мінаў час, і творчая іскарка, што запалілася ў раннім дзяцінстве, гасла, прыводзячы і да збяднення выканаўства, таму што лепш спасцігнуць твор іншага можна толькі творачы самому.

Давайце зараз узгадаем, што можа даць як дзіцяці, так і самому настаўніку аб'яднанне ў адно гульні і мэтанакіраванай дзейнасці па развіцці ўсяго комплексу музычных здольнасцяў.

Па-першае, мы можам адмовіцца ад традыцыйнай практыкі падачы заданняў у гатовым выглядзе. Многаразова пракручваючы ў гульні адзін і той жа матэрыял, але ў розных варыянтах і сітуацыях (што робіць, дарэчы, на сваіх уроках выдатны педагог Ш.А.Аманашвілі), мы можам падвесці дзяцей да самастойных высноў-фармулёвак.

Па-другое, у гульні дзеці без націску, па ўласнай ахвоце самі вяртаюцца да "сваіх" высноў (атрыманых ведаў) і замацоўваюць іх, паступова засвойваючы і выпрацоўваючы адпаведны навык.

Настаўніку неабходна памятаць, што некаторыя асноватворныя навыкі выпрацоўваюцца з цягам часу. Таму пры пераходзе да новага, больш высокага ўзроўню, у гульню заўсёды неабходна ўключыць ужо вядомы матэрыял; так, напрыклад, пры азнаямленні з новым матэрыялам, выкарыстоўваць простыя элементы пры выкананні заданняў творчага характару, альбо больш простыя рытмічныя малюнкі пры засвойванні новых ступеняў і наадварот. Гэта дазваляе да таго ж увязаць з вывучаным, яшчэ раз прапрацаваць матэрыял і замацаваць яго на больш высокім узроні развіцця.

Акрамя гэтага, выкананне простага задання, хай будзе яно нават самым карысным і патрэбным, заўсёды хутка стамляе дзяцей, у той час, калі гульня, захапляючы ўдзельнікаў, можа працягвацца не хвіліну, а гадзіну і болей. Пры гэтым настаўнік, пазбягаючы празмернай павучальнасці, мае магчымасць у розных варыянтах і камбінацыях паўтарыць навучальны матэрыял (не па прымусу, а па жаданні саміх вучняў).

У час калектыўных гульняў у класе ці ў групе ўсталёўваецца атмасфера дружалюбнасці. Правільна арганізаваная гульня робіць кожнага больш адказным у групе, класе, бо гульня не адбудзецца, калі кожны не прыкладзе максімум намаганняў, увагі.

Калектыўная гульня выхоўвае і асабістыя якасці дзіцяці, прымушае яго быць больш чуйным да партнёраў. Усе гэтыя тэзы важныя пры прымяненні дыдактычных гульняў па ўсіх прадметах, і тым болей музычных.

Хацелася б падзяліцца яшчэ адным назіраннем. На мой погляд, вельмі неабходна ўжо з першых заняткаў пастаянна даваць дзецям адчуць, што музыка — гэта частка чалавечага жыцця, што яна цесна звязана з усім, што нас акружае, і тым больш — з усімі відамі мастацтва (гл. работы Б.М.Неменскага, Дз.Дз.Кабалеўскага. Абмяжоўвацца пры гэтым адной дэкларацыяй немагчыма, варта выкарыстоўваць самы разнастайны "матэрыял" і слова, сачыненне апавяданняў з іх ілюстрацыяй за інструментам, вершы ці простыя рыфмы, маляванне, лепку і г.д.) Задача наша заключаецца ў тым, каб дзіця само, на ўласным вопыце спасцігла сувязь усяго мастацтва з жыццём, зразумела, што адрозненне паміж відамі мастацтва заключаецца толькі ў сродках увасаблення жыццёвых вобразаў, усяго навакольнага свету. А затым і прыйшоў да высновы, што толькі сродкамі музыкі мы можам перадаць пачуцці людзей, іх унутраны душэўны стан і што менавіта гэтым можна вытлумачыць адметнае становішча музыкі сярод усіх відаў мастацтва. І як гэта цудоўна — займацца музыкай, творчасцю!

У правядзенні дыдактычных гульняў настаўнік выступае не толькі ў ролі арганізатара, але і ўдзельніка, асабліва ў гульнях з маладымі школьнікамі. Аднак імкненні педагога павінны быць нацэлены на тое, каб з цягам часу яго роля абмяжоўвалася, зводзілася як бы да "дарадчага голасу". Пры пераходзе дзяцей у 5 (а то і ў 4) клас у іх, пры правільна арганізаванай у папярэднія гады навучальнай дзейнасці, павінна быць выпрацавана патрэба ў самастойнасці; ім можна ўжо даручаць праводзіць частку ўрокаў (у групах), арганізоўваць гульневую дзейнасць у класах пачатковай школы ў выглядзе драматычных пастановак-сцэнак, а таксама займацца музычна-асветніцкай дзейнасцю ў школе (калі гэтыя дзеці займаюцца ў класах з музычным ухілам, у дзіцячых музычных школах). Але гульня застаецца актуальнай і ў рабоце з падлеткамі, толькі набывае іншыя формы.

Для ажыццяўлення дыдактычных гульняў, накіраваных на музычна-творчае развіццё дзіцяці, трэба стварыць пэўныя ўмовы:

— матэрыяльныя, г.зн. неабходна мець дыдактычныя дапаможнікі (рытмічныя карткі, рытмічную азбуку, кубікі, мячыкі для правядзення рытмічных гульняў, фланэлеграф з наборам нотаў-кружочкаў, дзіцячы музычны аркестр, групу малога ўдарнага складу і іншыя інструменты) і г.д.

— тэхнічныя, г.зн. неабходна навучыць дзіця працаваць з дыдактычнымі сродкамі, авалодаць імі тэхнічна.

— сацыяльна-псіхалагічныя, г.зн. у дзіцяці павінны сфарміравацца пачуцці знешняй і ўнутранай бяспекі, раскаванасць, свабода, калі яно ведае, што не атрымае нездавальняючай адзнакі з боку дарослага і што ўсе яго творчыя праяўленні знойдуць падтрымку.

— інтэлектуальныя, якія ствараюцца шляхам рашэння творчых задач.

Вучоныя, псіхолагі, якія займаюцца даследаваннямі мастацкага творчага выхавання дзяцей, адзначаюць наступнае: часта бывае так, што дзіця навучыцца добра спяваць, маляваць, сачыняць, але пры ўсім гэтым не фарміруецца агульная свабода яго ўяўлення, што праяўлялася б ва ўсіх відах дзейнасці, ва ўсіх справах. Адсутнічае развіццё пазнавальнага інтарэсу. А гэта прыводзіць да тармажэння агульнага развіцця як у дашкольным узросце, так і ў час навучання ў школе. Таму правільным будзе толькі такое прымяненне навучальных гульняў, якое накіравана не толькі на развіццё спецыяльных музычных здольнасцяў і нават музычнай творчасці, але і на развіццё пазнавальнага інтарэсу дзяцей, на іх інтэлектуальнае развіццё, на фарміраванне ў іх пастаянна ўзрастаючай патрэбы ў атрыманні новых ведаў, пры дапамозе якіх яны змогуць узбагаціць не толькі сваю гульню, але і свой жыццёвы вопыт, і прымяніць якія яны змогуць у разнастайных сферах дзейнасці.

**Валянціна ЮРКЕВІЧ,**
навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі.

